Беларусі.

В. Якавенка падзякаваў за дапамогу пры складанні даклада доктару біялагічных навук Т. Раманавай, членам аргкамітэта. Разам з тым ён крытыкаваў пазіцыю намесніка загадчыка аддзела аховы прыроды Савета Міністраў БССР С. Рудневай, якая ў свой час шмат у чым дапамагла будучаму саюзу, але напярэдадні з'езда выступіла супраць абмеркавання на з'ездзе праблем, звязаных з чарнобыльскай катастрофай.

С. Руднева ў сваім выступленні абгрунтавала такую пазіцыю тым, што кіраўніцтва рэспублікі з дапамогай урада СССР у бліжэйшы час мяркуе прыняць дадатковыя меры па ліквідацыі вынікаў аварыі ў пацярпеўшых раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Паводле яе меркавання, праблема гэтая надзвычай вострая і сур'ёзная, але яна... не мае дачынення да праблем экалогіі. Такое сцвярджэнне, натуральна, выклікала крытыку з боку ўдзельнікаў з'езда, бо праблемы радыяцыйнага забруджвання прыроднага асяроддзя якраз найбольш хвалююць усіх жыхароў нашай рэспублікі. Гэтым і іншым актуальным праблемам аховы прыроды і практычным метадам іх вырашэння меркавалася адвесці на з'ездзе галоўную ўвагу. Аднак працэдурныя і арганізацыйныя пытанні, неабходнасць максімальна дэмакратычнага іх вырашэння ўсё ж — і гэта зразумела для першага з'езда — выйшлі на першы план. Абмеркаванне рэгіянальных экалагічных праблем давялося перанесці на наступны дзень.

Пасля працяглых гарачых дэбатаў з'ездам былі прыняты з папраўкамі Асноўныя напрамкі дзейнасці і Статут БЭС.

Затым адбыліся выбары прэзідэнта і трох віцэ-прэзідэнтаў саюза. У канчатковы спіс для тайнага галасавання былі ўнесены сем кандыдатур. Перад гэтым кожнаму з кандыдатаў давялося выступіць і адказаць на пытанні дэлегатаў. Пытанні былі самыя разнапланавыя. Удзельнікаў з'езда цікавіла, ці ёсць у кандыдатаў праграма канкрэтных дзеянняў, наколькі яны валодаюць праблемамі экалогіі.

У выніку выбараў найбольшую колькасць галасоў набраў загадчык кафедры заалогіі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта прафесар Б. Савіцкі. Ён і стаў прэзідэнтам Беларускага экалагічнага саюза. Віцэ-прэзідэнтамі абраны (у парадку колькасці аддадзеных ім галасоў) акадэмік АН БССР Р. Гарэцкі, Л. Тарасенка і прафесар Я. Пятраеў.

Адкрытым галасаваннем з'езд выбраў праўленне БЭС, у якое ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх абласцей і сталіцы рэспублікі. Сярод членаў праўлення — навукоўцы і работнікі культуры, спецыялісты сельскай гаспадаркі, інжынеры, рабочыя, студэнты, выкладчыкі, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і духавенства, грамадскія дзеячы, народныя дэпутаты СССР.

Была выбрана таксама рэвізійная камісія БЭС.

Удзельнікі з'езда прынялі зварот да Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР у сувязі з вынікамі аварыі на ЧАЭС. У гэтым дакуменце ў настойлівай форме ставіцца пытанне аб неабходнасці самай шырокай галоснасці вакол іх, а галоўнае — аб неабходнасці прыняць тэрміновыя і энергічныя меры па іх ліквідацыі.

На з'ездзе сярод іншых разглядалася і пытанне аб сімволіцы экалагічнага саюза. Эмблема БЭС (выява папараць-кветкі) і бела-зялёна-белы сцяг з гэтай эмблемай разам з дакументамі з'езда будуць прадстаўлены на разгляд у Вярхоўны Савет рэспублікі. Дэлегаты з'езда выказвалі неадназначныя адносіны да прапанаванага сцяга. Але пакуль што больш важным уяўляецца не тое, якім быць сцягу і як будзе выглядаць БЭС на міжнароднай арэне, а тое, у якім кірунку пойдзе экалагічны саюз у сваёй дзейнасці ў рэспубліцы. Ці не праявяцца ў рабоце новага саюза хібы, характэрныя для дзейнасці таго ж таварыства аховы прыроды? Ці здолеюць учарашнія «нефармалы» цалкам пазбегнуць фармалізму пасля свайго арганізацыйнага афармлення? Прапанова аднаго з дэлегатаў з'езда стварыць у БЭС асобны камітэт па барацьбе з праявамі ўнутрысаюзнага бюракратызму выклікала смех у зале. Аднак ці не прагучала яна як першае папярэджанне?

Зразумела, стваральнікі экалагічнага саюза ведаюць, якія цяжкасці і перашкоды могуць напаткаць іх у рабоце. Свой аўтарытэт яму давядзецца заваёўваць толькі адным — працай. А вось наколькі яна будзе плённай, залежыць у рэшце рэшт і ад усіх нас. Ратаваць прыроду ад канчатковага разбурэння, а значыць захаваць наш родны дом для наступных пакаленняў (а шанц такі, будзем спадзявацца, пакуль яшчэ ёсць) — клопат агульны.

**Віталь ТАРАС.**

---

Сёння ўжо відавочна, што бюракратыя, згодна з класічна ўсталяванымі законамі сваёй дзейнасці, істотна затармазіла надзвычайныя меры па збаўленні людзей з радыяцыйнага палону. Кіраўніцтва рэспублікі не стала сапраўдным выразнікам небяспекі, у якой апынуўся беларускі народ, не ўсвядоміла ўсёй адказнасці перад фактам нацыянальнай катастрофы, чым і сцвердзіла сваю сапраўдную сутнасць, а менавіта: бюракратычную псіхалогію, фанатычную вернасць ідэалагічным забаронам, нявер'е ў свой народ.

Пытанне «Хто?» было, на мой погляд, прадбачліва нейтралізавана на З'ездзе некалькімі выступленнямі беларускіх дэпутатаў. Яны мяне, як і многіх выбаршчыкаў, не маглі цалкам задаволіць ні ў сваім першым гучанні з трыбуны З'езда, ні тым больш пасля, калі я параўноўваў іх з тэкстам у час не сказанай, на вялікі жаль, прамовы дэпутата Шушкевіча, з якой ён пазнаёміў упершыню прысутных у Доме палітасветы 17 чэрвеня г. г.

Пры ўсёй неардынарнасці асобы многіх нашых дэпутатаў яны, маючы і сваю пазіцыю, і думку, апынуліся, часам не ўсведамляючы таго самі, у ціcках традыцыйных падыходаў, абумоўленых і палітычнай атмасферай у рэспубліцы, і сваім нялёгкім становішчам на З'ездзе. Гэта становішча, хочацца верыць, яны папрaвяць. Восень з чарговым З'ездам не за гарамі. Ці паспеем?

**В. ЖАРНОЎСКІ,**
**журналіст.**

---

**недастаткова. Кампетэнтныя навукоўцы лічаць, што сёння яшчэ цяжка прадказаць вынікі катастрофы, бо апагей лейкемій і генетычных адхіленняў чакаецца праз некалькі гадоў. Па агульных падліках недзе 100 тысяч чалавек працягваюць жыць у радыяцыйна небяспечных зонах. Хто і калі іх будзе перасяляць? Не зроблена адсялення нават маці і дзяцей з мясцін з радыеактыўнасцю 15 і больш кюры на квадратны кіламетр. Людзі не забяспечаны індывідуальнымі сродкамі кантролю за ўзроўнем радыяцыі і працуюць у небяспечнай зоне. Першачарговая задача — адсяліць усё без выключэння насельніцтва з забруджанай зоны.**

**На 8-тысячнай сустрэчы выбаршчыкаў з народным дэпутатам СССР С. С. Шушкевічам быў прыняты зварот да Вярхоўнага Савета БССР. Выбаршчыкі просяць ўлічыць іх думку пры распрацоўцы і прыняцці Закона аб выбарах у Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя органы народнай улады. У звароце патрабуецца адмяніць выбары ад грамадскіх арганізацый і КПСС; захоўваць прынцып «1 выбаршчык — 1 голас»; адмяніць інстытут акружных перадвыбарчых сходаў; лічыць несапраўднымі выбары ў акругах, дзе балаціруецца менш як 2 дэпутаты; выбіраць старшыню Вярхоўнага і мясцовых Саветаў БССР на альтэрнатыўнай аснове прамым галасаваннем.**

**НАШ КАР.**

---

**У мінулым нумары мы пісалі пра навукова-практычную канферэнцыю «Народ. Культура. Перабудова». У ёй прыняў удзел міністр культуры рэспублікі Я. К. Вайтовіч, выступленне якога друкуецца сёння ў скарочаным выглядзе.**

**Яўген ВАЙТОВІЧ,**
**міністр культуры БССР**

# УРОКІ і ПЕРСПЕКТЫВЫ

Сёння мы становімся сведкамі значных пераўтварэнняў ва ўсіх галінах нашага жыцця. Падтрымліваючы своечасовасць і неабходнасць палітычных і эканамічных рэформаў, грамадская думка ўсё выразней схіляецца да таго, што без радыкальных змен у агульнай культуры грамадства яны немагчымы.

І ўсё больш відавочным становіцца факт, што сучасны стан культуры ў краіне не толькі не можа забяспечыць рэальнасць і неадольнасць працэсаў перабудовы, але і тармозіць іх.

Поспех рэвалюцыйнай перабудовы грамадства найперш будзе залежаць ад узроўню развіцця духоўнасці чалавека.

**Мы не можам не прызнаць таго, што нямала нашых сучаснікаў жывуць без высокіх ідэалаў, у палоне спажывецкай ідэалогіі і «вещизма». Разрыў паміж вяршынямі прафесійнага і нават самадзейнага мастацтва і звычайнай жыццёвай рэальнасцю, паміж праявамі сапраўднай духоўнасці і побытам большасці людзей надзвычай вялікі. Пад уздзеяннем тэорый аб зліцці нацый і адміранні моў у рэспубліках вырасла некалькі пакаленняў людзей, духоўнае фарміраванне якіх праходзіла ў адрыве ад нацыянальна-культурнага грунту. Мільёны грамадзян вялікай шматнацыянальнай краіны па сутнасці перасталі засвойваць сваю родную культуру ў шырокім значэнні гэтага паняцця: мову, сваё мастацтва і літаратуру, гісторыю, фальклор, векавыя традыцыі свайго народа.**

**Развіццю нашай культуры не маглі спрыяць і многія іншыя сумныя з'явы эпохі захаплення парадна-паказнымі мерапрыемствамі, у якіх нацыянальная культура звычайна выконвала ролю экзатычна-этнаграфічнага элемента, дэкаратыўнай аздобы да свят і афіцыйных урачыстасцей. Цяжкія, непапраўныя страты прынесла нам практыка астаткавага фінансавання культуры, наша захапленне знакамітым «культурным валам».**

**І сапраўды, калі б гаворка сёння пайшла аб статыстычных паказчыках, трэба было б нагадаць пра тысячы клубаў і бібліятэк, гурткоў мастацкай самадзейнасці, пра мільёны наведвальнікаў музеяў і такую ж колькасць гледачоў у тэатрах і канцэртных залах, і гэта ўсё адпавядала б сапраўднасці.**

Нам здавалася, што, паспяхова павялічваючы аб'ёмы культурнага абслугоўвання насельніцтва, мы само сабой вырашылі і пытанні максімальнага раскрыцця здольнасцей і выхавання асобы. Развіццё яе духоўнага свету, думалі мы, вырашаецца аўтаматычна, будзе забяспечана самой прыродай сацыялістычнага грамадства.

Безумоўна, мы маем права сёння гаварыць аб дасягненнях беларускага тэатра, выхадзе нашай драматургіі на ўсесаюзную сцэну, аб багацці і разнастайнасці выяўленчай і музычна-канцэртнай палітры прафесійнага мастацтва, прапагандзе народнай творчасці калектывамі мастацкай самадзейнасці і г. д.

Але патрэбы эстэтычнага выхавання, жыццё чалавека больш складаныя. Усім нам вядома, што, напрыклад, урадлівасць глебы залежыць ад таўшчыні гумуснага слою. Так і ў грамадстве існуе пэўны культурны слой, ад якога залежыць і яго росквіт і здольнасць да развіцця. Менавіта гэты слой за апошнія дзесяцігоддзі ў нас не павялічыўся, а значна паменшыўся. Нягледзячы на ўсе нашы дасягненні, культура — як шырокі, масавы сацыяльны працэс была і пакуль што яшчэ падмяняецца поспехамі асобных прафесіяналаў, ды яшчэ так званых паказальна-ўдарных самадзейных калектываў.

Не хацеў бы, каб такая канстатацыя была ўспрынята як нейкі рэверанс модзе на крытыку. Гэта ўрок праўды, чэсны і аб'ектыўны аналіз праблем, і ён прымушае ўсіх нас прызнаць, што ў грамадстве пануе надзвычай нізкі ўзровень маралі і этыкі, рэзка павялічыліся крымінальнасць, наркаманія, агрэсіўнасць і хцівасць. У заняпадзе такія вечныя чалавечыя вартасці, як дабрыня, міласэрнасць і гуманізм. Растуць асацыяльнасць, інфантылізм і спажывецкія настроі ў моладзі. Сёння мы маем даволі значны пласт нават адукаваных людзей, якія пазбягаюць колькі-небудзь сур'ёзных духоўных заняткаў, зневажальна ставяцца да ўсіх праяў нацыянальнай самасвядомасці.

Мастацтва, інфармацыя не ведаюць межаў. Але і антымастацтва, дэзінфармацыя — таксама. Масавая культура, якая захапіла ў другой палове дваццатага стагоддзя многія пазіцыі ў духоўным жыцці — гэта не проста рэальнасць, з якой даводзіцца лічыцца. Гэта ідэйна-псіхалагічная агрэсія, якая мае на мэце навязаць ілжывыя ідэалы і каштоўнасці.

У сучасны момант паўсюдна пачаўся працэс рэканструкцыі нацыянальнай памяці і самасвядомасці. І каб падтрымаць працэс народнага абуджэння, духоўную жыццяздольнасць дзяржавы, патрэбны кардынальныя змены ў нашай палітыцы.

Наіўна было б меркаваць, што вырашэнне надзённых праблем культуры знаходзіцца недзе побач, у межах аднаго кіраўніцкага рыўка альбо высокай дырэктывы. Але прызнаем, што часам і дзве пяцігодкі не давалі столькі тэарэтычных і арганізацыйных магчымасцей у сферы культуры, колькі мы атрымалі цяпер.

Нельга не сказаць і пра змены духоўнага клімату грамадства, пра маральнае ачышчэнне, уласцівае ўсім групам творчай інтэлігенцыі. Зрух усяго масіву культуры выклікаў да жыцця з'яўленне новых грамадскіх арганізацый — фонду культуры, музычнага таварыства, шэраг нефармальных аб'яднанняў. Усе гэтыя змены, безумоўна, не маглі не ўплываць на Міністэрства культуры, канцэпцыю яго дзейнасці.

Зараз, як ніколі, неабходна засяродзіць увагу на буйных, вызначальных для нашай культуры і мастацтва праблемах і напрамках. Міністэрства культуры сумесна з АН БССР, творчымі саюзамі і таварыствамі вядзе грунтоўную іх распрацоўку, выявярае канцэпцыі. Некаторыя з іх, да прыкладу, такія, як «Развіццё манументальнай прапаганды», «Беларуская мова ў нацыянальнай культуры», праграма «Вольны час», «Захаванне фальклору», зараз на завяршальнай стадыі іх распрацоўкі. А праграма музычнага эстэтычнага выхавання дзяцей і юнацтва ўжо ў стадыі рэалізацыі.

І ўсё ж мы перакананы, што неабходна аснова, якая аб'яднала б усе гэтыя напрамкі дзейнасці, акумуліравала б іх і адначасова была б галоўным выказнікам канцэпцыі развіцця нацыянальнай культуры.

**На наш погляд, а яго падтрымала большасць творчых саюзаў, такой асновай можа стаць рэспубліканская, дзяржаўная праграма «Спадчына».**

**Нас вельмі непакоіць, што ў апошнія дзесяцігоддзі, у выніку ажыццяўлення памылковай палітыкі ў культасветрабоце, склалася становішча, калі народная спадчынная культура, ярчэй за ўсё выяўленая ў святах і абрадах, апынулася ў заняпадзе. Найбольшае развіццё атрымалі новыя формы, новыя святы, часцей за ўсё вельмі далёкія ад беларускай мастацкай спадчыны, гісторыі, сімволікі, як правільна пісала Л. Рыжкова ў артыкуле «Свята — для чалавека» («ЛіМ», 9.06.89 г.) Новыя святы звычайна рыхтуюцца рэжысёрамі, сцэнарыстамі і мастакамі, бываюць разлічаны на адну пастаноўку і носяць прэм'ерны характар. Вёска перад вёскай, раён перад раёнам, вобласць перад вобласцю імкнуцца вызначыцца новым святам, феерверкам, марш-парадам і г.д. А людзі часцей за ўсё застаюцца незадаволенымі, таленты і ўмельствы іх — не раскрытымі, таму што ў час адпачынку і свят людзі любяць апынуцца ў звыклай абстаноўцы і быць не гледачамі, а ўдзельнікамі.**

**Мы плануем тэрмінова вырашыць праблему рэспубліканскага календара на грунце традыцыйных свят, а таксама традыцыйнага рэгламенту на кожнае свята. Такі каляндар дапаможа ўратаваць фальклор, рамёствы, падыме прэстыж культасветработніка, дасць логіку і сэнс яго дзеянням. Вырашаць гэтую праблему неабходна грунтоўна і якасна, з удзелам вядучых этнографаў, філосафаў, гісторыкаў, фалькларыстаў, псіхолагаў, пісьменнікаў, кампазітараў, дзеячаў культуры.**

**У Беларусі, дзе такі багаты нацыянальны фальклор, такі высокі ўзровень прафесіянальнай паэзіі і мастацтва, святочны каляндар можа вызначыцца яркай самабытнасцю і прыгажосцю абрадаў і рытуалаў.**

Праграма «Спадчына» накіравана на захаванне і выкарыстанне ўсіх аб'ектаў культурнай спадчыны на тэрыторыі Беларусі.

Сярод найбольш значных твораў матэрыяльнай культуры, своеасаблівым летапісам, у якім знайшлі арганічнае спалучэнне эпоха і мастацкі талент народа, з'яўляюцца помнікі гісторыі і манументальнага мастацтва. У рэспубліцы іх больш за 15 тысяч. Гэта магутны духоўна-маральны патэнцыял і, каб захаваць яго, адрадзіць, зрабіць актыўным выхаваўчым кампанентам, патрэбна карпатлівая, удумлівая, навукова асэнсаваная работа. Разам са спецыялістамі АН нядаўна мы падрыхтавалі перспектыўны план збудавання і аднаўлення найбольш значных помнікаў і манументаў. Сёння, калі з нашага мінулага знялі архіўныя забароны, ідзе пераацэнка многіх падзей і персаналій гісторыі. Яна патрабуе ўнесці ў гэты план неабходныя карэктывы ў бок больш шырокага ўшанавання памяці нашых выдатных дзеячаў гісторыі, і гэта трэба зрабіць неадкладна.

Літаральна на днях урад рэспублікі знайшоў практычную магчымасць падтрымаць ідэю збудавання ў блі-

**(Працяг на стар. 14—15).**

## З пошты «ЛіМа»

# • Кожнаму быць грамадзянінам
# • «Дзякуй табе, сынок!»
# • Як галасаваць «лімітчыку»?

□

**Мы, супрацоўнікі** Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР, падтрымліваем далейшую дэмакратызацыю, стварэнне Беларускага народнага руху за перабудову.

Перабудова, пачатая «зверху», застанецца міфам, калі яна не будзе падтрымана «знізу», шырокімі народнымі масамі, — інакш людзі будуць потым з іроніяй успамінаць, што яны жылі ў «эпоху перабудовы», гэтак жа, як мы зараз гаворым пра «эпоху застою».

Пакуль кожны чалавек сам не спазнае патрэбу быць Грамадзянінам, а не «чалавечым фактарам», пакуль кожны з нас не набудзе ўпэўненасць, што не ад Міхаіла Сяргеевіча, а ад цябе самога залежыць будучае і сённяшняе, дагэтуль мы, на жаль, будзем асуджаны на чэргі, талоны, «запрашэнні», маруднае выміранне ад нітратаў, радыяцыі, некваліфікаванай медыцынскай дапамогі, невуцтва, страху, *разгільдзяйства*, бескультур'я, бездухоўнасці! Час адвыкнуць ад думкі, што за цябе падбае нехта іншы, хоць гэта дужа зручна: калі ў *крамах пуста — так трэба; калі кажуць*, што радыяцыя бясшкодная, — значыць, так яно і ёсць; калі гавораць пра перабудову — хай робяць яе, гэтую перабудову, *іншыя, а мы*, людзі маленькія, пачакаем.

Думаць самім трэба! А гэта цяжка. Давайце думаць і вучыць гэтаму нашых дзяцей, мы, так званыя «Homo sapiens»!

Народны рух за перабудову — гэта адзіная на сённяшні дзень магчымасць *кансалідацыі ўсіх, хто хоча* вучыцца думаць самастойна, быць не рабом, а вольным грамадзянінам, чалавекам новага мыслення, хто хоча *жыць у гуманным, цывілізаваным*, эканамічна развітым грамадстве. Ніхто нам такое грамадства не падаруе — спадзявацца трэба на саміх *сябе, забыцца на страх і* адчуваць сябе людзьмі.

Як сказаў на З'ездзе народных дэпутатаў СССР М. С. Гарбачоў, «усялякія задумы карэннага *абнаўлення* жыцця грамадства асуджаны на правал, калі ў гэтыя рэвалюцыйныя па сваім змесце працэсы не будуць уключаны ўсе *пласты* грамадства, увесь народ».

**І. ЯУЖЭНКА, І. ГАРАДКО, А. ВАСІЛЕУСКАЯ, Б. НЕУСКІ, І. МАЗАНІК і інш. (усяго 68 подпісаў).**

□

**Наведала** я нядаўна сваё роднае мястэчка Рубяжэвічы, што недзе каля 60-ці кіламетраў ад Мінска. Нялёгка ў мае гады і пры маіх хваробах падарожнічаць. Але хто ведае, колькі мне яшчэ наканавана хадзіць па зямлі? І я не магла не паехаць туды. Паехала, каб яшчэ раз пакланіцца праху сваіх бацькоў, сваякоў, землякоў, якія трагічна загінулі ў час вайны.

Гэта здарылася 7 лістапада 1942 года. На мястэчка раптоўна наляцелі гітлераўцы і іх найміты. Пачалося масавае знішчэнне насельніцтва, у першую чаргу — людзей яўрэйскай нацыянальнасці. Фашысты не шкадавалі ні жанчын, ні дзяцей. Загубілі ў той дзень амаль 600 чалавек, у тым ліку і маіх бацькоў. Толькі адзінкам удалося ўратавацца. Ад іх і даведалася, калі вярнулася з эвакуацыі, пра жахлівыя падзеі таго дня.

Калі ўпершыню пасля вайны я наведала Рубяжэвічы, мне паказалі на ўскраіне мястэчка, на пагорку ўзбоч Сімкавіцкай дарогі, вялікую брацкую магілу. На высокім камені была пазначана дата трагедыі і ўказана колькасць пахаваных тут людзей...

Якое ж расчараванне чакала мяне ў апошні мой прыезд у роднае мястэчка! Я ледзь знайшла тое месца. Усё парасло драбналессем. Толькі невялікі грудок паказаў месца пахавання. Нават камень з надпісам знік...

Крыўдна стала. І балюча. Чаму так абыякава ставяцца мясцовыя ўлады і жыхары да памяці рубяжэўцаў, якія сталі ахвярамі фашысцкіх вылюдкаў? Няўжо так цяжка агарадзіць магілу, прывесці яе ў парадак? А каму мог спатрэбіцца надмагільны камень? Як можа жыць са спакойнай душой чалавек, што выкарыстаў яго для нейкай патрэбы?

Не магу больш пісаць. Слёзы душаць...

**Ф. ВОЛЬСКАЯ.**

г. Мінск.

□

**Прачытала** ў вашай газеце за 26 мая ліст «Апаленыя зярняты» А. Крываноса і хочацца сказаць: дзякуй табе, сынок, за тое, што, прайшоўшы такое пекла, ты застаўся Чалавекам. Добра, што сярод «афганцаў» ёсць і такія мужныя, а галоўнае—думаючыя людзі.

Я не ведаю, ці можа быць гора больш, чым гора Маці, якая ходзіць на магілу свайго любага, дарагога Сына. Яна знешне жывая, але душа яе змярцвела, і гэты крыж яна будзе насіць да апошняга дня свайго жыцця.

І не толькі тых чатырох альбо больш злачынцаў я абвінавачваю, што палічылі неабходным і магчымым кінуць не сваіх сыноў у бойку. Але ўсе мы, жанчыны-маці, вінаватыя ў тым, што далі магчымасць гэтым вандалам рабіць сваю чорную крывавую справу.

Дзякуй богу, зараз у нашым грамадстве з'явіўся рух, жаданне скінуць путы рабства. Я вельмі спадзяюся, што мы ніколі не дазволім рабіць з намі такое.

*Здароўя табе, сынок! Табе і тваім сябрам!*

**Таццяна Іванаўна ГУРЭЦКАЯ.**

г. Мінск.

□

**З цікавасцю** прачытаў у «ЛіМе» за 19 мая ліст В. Пятровай, урача-неўрапатолага з Мінска, аб тым, ці пераводзіць нам гадзіннікі. На гэтую ж тэму было апублікавана таксама чытацкае пісьмо ў газеце «Знамя юности» ў красавіку г. г. Мне як урачу-тэрапеўту даволі часта даводзіцца сутыкацца з адхіленнямі ў самаадчуванні людзей, звязанымі са зменай гадзіннікавых паясоў. Дэсінхранозы — так называюцца гэтыя анамаліі ў здароўі людзей, — вывучаюцца медыцынай, шукаюцца сродкі для выпраўлення парушаных біялагічных рытмаў чалавека. Біялагічныя рытмы, ў сваю чаргу, знаходзяцца ў прамой залежнасці ад «сонечнага» часу на данай мясцовасці і ад іншых атмасферных і касмічных з'яў і цыклаў. Там, дзе гадзіннікавы час і сонца найбольш блізка супадаюць, умовы для біялагічна здаровага існавання арганізма людзей найбольш спрыяльныя.

А што мы маем на Беларусі? Згодна з астранамічнымі данымі ў беларускім настольным календары ўзыход Сонца на геаграфічнай даўжыні Мінска ў маі—чэрвені—ліпені, напрыклад, пазнейшы на 49—52 мінуты, а ў Гродне ці Брэсце — аж на 65—78 мінут у параўнанні з Масквой. Гэта азначае, што мы ў Беларусі маем пастаянныя часавыя ўмовы для ўзнікнення адхіленняў у самаадчуванні людзей, дзяцей і дарослых, асабліва пры хваробах нервовай сістэмы і страўнікава-кішачных. Горш адчуваюць сябе і здаровыя людзі, у іх зніжаецца разумовая і фізічная актыўнасць.

Прыходзіцца сумнявацца і ў тым, ці дае перавод гадзіннікаў на існуючы цяпер час тую жаданую эканомію электраэнергіі, бо ў красавіку і ў верасні мы раніцай даўжэй карыстаемся ёю. Думаецца, што больш важна мець моцнае здароўе людзей, чым тую даволі гіпатэтычную эканомію электраэнергіі.

Праблему дэсінхранозаў больш-менш дзейсна вырашылі ў рэспубліках Прыбалтыкі і Калінінградскай вобласці, якія знаходзяцца на блізкіх да нас геаграфічных даўжынях. Бяспрэчна толькі адно: здароўе чалавека залежыць не толькі ад стану глебы, вады, паветра, але і ад адэкватнасці ўкладу жыцця прыродным біялагічным рытмам. Гадзіннік пераводзіць трэба, але на свой, мясцовы час.

**М. АДАМІН,**
**урач.**

Санаторый «Парэчча»
Гродзенскай вобл.

□

**Не так даўно** «Вячэрні Мінск» прывёў цікавы факт. Аказваецца, насуперак вядомаму рашэнню гарадскіх улад, Мінскі аўтамабільны завод прыняў на работу і пасяліў у інтэрнаце без прапіскі каля трохсот прадстаўнікоў сацыяльнага пласта, што называецца газетай «іншагароднія». Падзея гэта ніяк не каменціруецца. Відаць, па той прычыне, што ўлады і друк ўпэўнены ў поўным супадзенні афіцыйнага пункту гледжання і грамадскай думкі, якія аднолькава не любяць «лімітчыкаў».

Тым не менш, каментарый тут яўна неабходны. І вось па якой прычыне. Мне здаецца, што мы гранічна спрасцілі разуменне сутнасці сацыяльнай сферы, мяркуючы аб узроўні яе развіцця па забяспечанасці жыллём, школамі і паліклінікамі, бытавымі паслугамі. Але ж галоўны крытэрый яе сталасці — гэта гнуткасць, рухомасць сацыяльнай структуры, мабільнасць насельніцтва, свабода міграцыі.

Сёння ўжо немагчыма пераканаць ні сябе, ні іншых у тым, што інстытут прапіскі, які знаходзіцца ў веданні МУС і абмяжоўвае свабоду выбару месца для пражывання, адпавядае прыродзе «постразвітога» сацыялізму. Не. Ён працуе супраць перабудовы. У яго асобе мы маем справу з адным з самых злавесных «сацыяльных вынаходніцтваў» сталінізму, якое паслужыла гвалтоўнаму замацаванню таннай рабочай сілы для яе ж несумленнай эксплуатацыі. Гэта нават не перажытак прыгонніцтва, гвалтоўнага замацавання сялян да зямлі (паводле У. І. Леніна), а свядомая рэстаўрацыя прыгоннага права, ажыццёўленая Сталіным у пачатку 30-х гадоў для папярэджання ўцёкаў сялян з галоднай вёскі.

Інстытут прапіскі павінен быць адменены, дарэчы, не таму толькі, што ён супярэчыць духу сацыялізму, але і таму, што самым рашучым чынам ліквідуецца ўжо капіталізмам. Па ўсялякіх меркаваннях: палітычных, ідэалагічных, маральных, рэлігійных, а, галоўным чынам, па эканамічных. Імі, капіталістамі, зроблена адкрыццё: дынамічная і эфектыўная эканоміка мае патрэбу ў гнуткай сацыяльнай структуры.

Скасаваўшы пашпартны рэжым, мы па ўзроўні рэальнай свабоды станем у шэраг з цывілізаванымі народамі. Мы скасуем ганебную супярэчнасць паміж канстытуцыйнымі гарантыямі і іх практычным ажыццяўленнем, паміж словам і справай у галіне правоў чалавека. Перастанем, нарэшце, быць таталітарным пудзілам для заходняга абывацеля. Пазбавім сацыяльную навуку ад неўласцівай ёй функцыі даказваць недаказальнае, вышукваць аргументы на харысць несвабоды.

На прайшоўшых выбарах у народныя дэпутаты пацярпеў паражэнне генеральны дырэктар ВА «Белаўтамаз» М. Ф. Лаўрыновіч. Ці думаў ён пра тое, за каго будуць галасаваць яго «лімітчыкі» і ці змогуць увогуле ўдзельнічаць у выбарах? Бо чалавек «без прапіскі» ў нас — «па-за палітыкай». *Ці не ў тым прычына паражэння* дырэктара, што многія рабочыя, якія яго цэняць і паважаюць, але не маюць мінскай прапіскі, не *атрымалі права аддаць за дастойнага* чалавека свае галасы?

**К. СКУРАТОВІЧ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік *Мінскага філіяла* ЦНДІТЭІаўтапрама,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

в. Падыгрушша
Смалявіцкага раёна.

□

**У нашай мясцовасці** запланавана *будаўніцтва хімзавода па вытворчасці* гапрыну, які акажа адмоўны ўплыў на экалагічную абстаноўку ва ўсім нашым густанаселеным раёне. Трэба адзначыць, што першы адказ на нашы калектыўныя заявы-пратэсты намесніка старшыні Дзяржплана БССР ад 13.09.88 г. Г. П. Бадзея нас спачатку абнадзеіў, бо ў ім было сказана, што нашы трывогі не маюць падставы, — завод будаваць у нас не будуць. Аднак апошняя выпіска з пратакола пасяджэння Савета Міністраў БССР ад 28 лютага 1988 г. (мы бачылі яе) сведчыць аб тым, што пытанне аб будаўніцтве не знята з парадку дня, канчатковае рашэнне будзе прынята пасля адпаведнай дадатковай экспертызы. Быццам і цяпер некаму незразумела, што будаваць хімічнае прадпрыемства ў месцы, побач з якім размешчана больш як 20 населеных пунктаў, не гаворачы аб рацэ Шчары, лясных і палявых урочышчах, ні ў якім разе нельга.

Пра ўсё гэта мы гаварылі на перадвыбарчым сходзе былому кандыдату ў народныя дэпутаты Ю. М. Хусаінаву. Ён жа ў адказ заўважыў, што завод... будзе садзейнічаць матэрыяльнаму дабрабыту мясцовых жыхароў. Не трэба нам такога «дабрабыту»! Просім «ЛіМ» дапамагчы разабрацца ў каманднa-бюракратычных лабірынтах Дзяржплана і Міністэрства медыка-біялагічнай прамысловасці СССР, якое мае намер са згоды рэспубліканскага начальства будаваць у Быцені хімічны завод. На шляху гэтага будаўніцтва трэба паставіць неадольны заслон.

**Ад імя жыхароў Быценьскага сельсавета — М. ЖЫТКО, В. КУЗЬМІЧ, В. ЛЯУЧУК, В. МАРОЧКА і інш., усяго 100 подпісаў.**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**На прэс-канферэнцыі, прысвечанай Сусветнаму дню аховы прыроднага асяроддзя, старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па ахове прыроды В. А. Казлоў, характарызуючы экалагічную сітуацыю ў рэспубліцы, крытычна адазваўся аб будаўніцтве ў вёсцы Быцень Івацэвіцкага раёна завода па вырабе гапрыну — бялкова-вітаміннай прадукцыі. Ён заклікаў грамадскасць рэспублікі даць адпор дыктату *ведамасных інтарэсаў*, захаваць пакуль што экалагічна чысты кавалак беларускай зямлі. «ЛіМ» падтрымлівае гэты заклік і разам з чытачамі чакае канструктыўнага адказу ад Дзяржплана БССР, іншых устаноў, якія маюць дачыненне да гэтай справы.**

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

## «НАМ НЕ ДА ЗАБАЎ»

***У калектыўным пісьме* пад такім загалоўкам («ЛіМ» № 17) ішла гаворка аб «рэарганізацыі» ў анкалагічным аддзяленні Беларускага навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі шляхам скарачэння колькасці месцаў з 70 ложкаў на 40 і стварэнні такім чынам дзіцячага аддзялення—без выдзялення на гэта дадатковых сродкаў. Анкалагічна хворыя жанчыны таксама скардзіліся на ўмовы, у якіх ім даводзілася лячыцца («...скучанасць, жахлівая цесната, тынкоўка, што асыпаецца на галовы хворых у палатах, сталовая ў калідоры — вось далёка не ўсе «цуды» новага існавання анкахірургіі»).**

**Рэдакцыі адказвае дырэктар НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі прафесар І. Г. Жакаў:**

**— Пісьмо чытачоў «ЛіМа» абмеркавана на навукова - практычнай канферэнцыі навуковых супрацоўнікаў і ўрачоў НДІ анкалогіі і медрадыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР. Калектыў згодны з неабходнасцю будаўніцтва новага корпуса інстытута; у рэспубліцы сёння не *хапае 1100 анкалагічных* ложкаў.**

**У будынку, дзе зараз размешчана анкахірургічнае аддзяленне, раней знаходзілася радыялагічнае аддзяленне, таксама на 40 ложкаў, дзе лячыліся больш цяжкія хворыя, якіх нельга ўжо аперыраваць.**

**Без пашырэння ложкавай базы інстытута (будаўніцтва новага корпуса) пашырыць плошчы анкахірургічнага аддзялення не ўяўляецца магчымым.**

# ГОЛАС ДУШЫ, АСНОВА КУЛЬТУРЫ

**З устаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы**

ЯК ЧЫТАЧЫ «ЛіМа» ведаюць ужо, 27 чэрвеня ў Доме літаратара адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы. Пачынаючы свой даклад, старшыня арганізацыйнага камітэта па стварэнні Таварыства беларускай мовы, першы сакратар праўлення СП БССР **Н. Гілевіч** прачытаваў радкі з верша народнага песняра Беларусі Янкі Купалы:

**Бяссмертнае слова, ты,**
**роднае слова!**
**Ты крыўды, няпраўды змагло.**
**Хоць гналі цябе, накладалі**
**аковы,**
**Дый дарма: жывеш, як жыло!**

Калі Купала напісаў гэтыя палымяныя радкі,— працягваў прамоўца,— нашаму роднаму слову было яшчэ цяжка, яно яшчэ толькі пачынала выходзіць, вырывацца на волю. Але паэты прадчувалі блізкі надыход грознай рэвалюцыйнай буры-навальніцы, якая развее чорную імглу няволі і адкрые для роднага слова шырокі — на ўсю Беларусь — прастор,— адсюль і той відочны аптымізм, і тая вера ў несмяротнасць слова, якімі прасякнуты іх песні.

Парадокс гісторыі, аднак, мусім бачыць у тым, што праз 70 гадоў пасля рэвалюцыйнай навальніцы ў песнях беларускіх паэтаў пра родную мову стала намнога менш і аптымізму, і веры.

**Ці плачу я, ці пяю?**
**Восень. На вуліцы цёмна.**
**Вярніце мне мову маю!**
**Вярніце жыццё мне!**

Гэта,— падкрэсліў Н. Гілевіч,— мала каму вядомыя, бо не пушчаныя ў друк радкі Пімена Панчанкі. Дарэчы, радкі не сённяшнія: яны выкрыкнуліся ім гадоў дваццаць пяць назад. Што да яго сённяшніх радкоў пра родную мову — то яны, па-мойму, яшчэ болей горкія і болей гнеўныя. Таму што яшчэ і пятнаццаць гадоў назад становішча беларускай мовы ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы было менш катастрафічным...

Далей прамоўца гаварыў аб тым, што бюракратызацыя грамадскага жыцця забівала творчую ініцыятыву самога народа, падтрымлівала і жывіла подлую рабска-халуйскую псіхалогію і мараль, паводле якой — усё самае разумнае і мудрае, самае таленавітае — недзе там, а не тут, на сваёй зямлі, і прыходзіць сюды — адтуль... Гэта спарадзіла і развіло ў масах людзей такую агідную з'яву, як нацыянальны нігілізм, адмаўленне ад саміх сябе, ад сваёй нацыянальнай годнасці. Развіццё нацыянальнай самасвядомасці затармазілася і спынілася, а тое, што не рухаецца наперад, плынню жыцця, як вядома, адносіцца назад.

Адзначаючы неабходнасць адраджэння беларускай культуры ў самым шырокім значэнні гэтага слова, Н. Гілевіч заўважыў, што самым галоўным, першаступенным па важнасці элементам нацыянальнай культуры заўсёды была, ёсць і будзе мова. Адраджэнне беларускай культуры і мовы знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад агульнага адраджэння ленінскай нацыянальнай палітыкі ў краіне, ад таго, наколькі рэальным будзе статус БССР як суверэннай сацыялістычнай дзяржавы, наколькі сапраўдным будзе ў нас народаўладдзе. Калі намі сур'ёзна ўзяты курс на рэальнае, а не папяровае забеспячэнне суверэнных правоў Беларусі, то павінен быць неадкладна ўзяты курс і на наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы БССР. Без такога статуса, г. зн. без канстытуцыйна зацверджанай прававой асновы, яна не зможа натуральна функцыяніраваць ва ўсіх сферах жыццядзейнасці народа, без гэтага немагчыма будзе падняць яе аўтарытэт і прэстыж, яна будзе заставацца ў ролі мовы другараднай, у становішчы падчаркі і папялушкі.

Тым, каму гэта патрабаванне сёння, у канцы XX стагоддзя, на 71-м годзе БССР, здаецца празмерным,— сказаў прамоўца,— напомнім, што і шэсцьсот, і пяцьсот, і чатырыста, і трыста гадоў таму назад наша мова ўжо была дзяржаўнай — і гэта нікому не здавалася празмерным, і ні трохі не бянтэжыла ні князёў, ні святароў, ні ваяводаў, ні шляхцічаў, ні вучоных і летапісцаў — нікога! Затым яна была гэтага права больш як на два стагоддзі пазбаўлена, і зноў набыла статус дзяржаўнасці толькі ў першыя гады пасля Кастрычніка. Набыла, ды, на вялікі жаль, ненадоўга. І вось цяпер зноў прабіў яе гістарычны час. Нам дадзены шанц — можа быць, апошні шанц — зноў, у трэці раз, зрабіць яе дзяржаўнай, і цяпер ужо — на вечныя вякі.

Не трэба аднак думаць, што пасля набыцця нашай мовай статуса мовы дзяржаўнай далей выпраўленне яе становішча будзе адбывацца амаль аўтаматычна, лёгка і само сабой. Думаю, — зазначыў Н. Гілевіч,— што самыя вялікія цяжкасці якраз тады і пачнуцца — цяжкасці практычнай работы, калі ад слоў пра неабходнасць ратавання мовы, ад разважанняў і спрэчак мы пяройдзем да справы... Нашай мове і надалей, пасля набыцця статуса дзяржаўнай, давядзецца вытрымліваць на практыцы вельмі нялёгкае спаборніцтва. Сама па сабе наша мова такая, што можа спаборнічаць з любою моваю ў свеце. Мова — можа, але ці можам мы, кожны з нас паасобку? Я хачу гэтым сказаць, што праблема культуры роднага слова — і вуснага і пісьмовага — у нас крайне вострая, і, пры ўсіх скідках на агульную моўную сітуацыю, трэба самакрытычна гаварыць аб нашай проста-такі фантастычнай непатрабавальнасці. Вось дзе, думаецца, непачаты край работы для нас, сяброў Таварыства. Гэтаксама, як і ў справе збірання мясцовай лексікі і складання рэгіянальных слоўнікаў, у справе беражлівага захавання ўсіх дыялектаў і гаворак беларускай мовы — гэтых крынічна-свежых ручайкоў, якія яе жывяць, прыдаюць свае колеры-фарбы, свае водары-пахі і тым самым бязмежна ўзбагачаюць.

Наша таварыства,— працягваў прамоўца,— паклікана да жыцця часам, які нам выпаў на долю. Часам — не проста незвычайным, а, я сказаў бы, векапомным, які наўрад ці давядзецца яшчэ раз перажыць калі-небудзь нават сённяшнім маладым, не кажучы пра нас, сівагаловых. Гэты час рашуча загадаў нам дзейнічаць. Даў нам рэдкую магчымасць засведчыць, што мы яшчэ не дарэшты страцілі сваю чалавечую годнасць і грамадзянскую мужнасць.

Дык вітайма, — сказаў у заключэнне Н. Гілевіч, — гэты новы час, які вяртае нам веру і ўпэўненасць, што ў нашае мовы, а значыць, і ў нас ёсць будучыня. Што ні кажы, а з верай у будучыню жыць цікавей на зямлі. Але мы зычым шчаслівай будучыні не толькі сабе, а і ўсім нашым братам і сёстрам на ўсіх прасторах нашай неабсяжнай, разнамоўнай і рознагалосай краіны. І таму наш клопат пра свой уласны голас і пра сваё роднае слова — гэта і клопат пра голас і пра слова кожнага братняга народа. Адзінокім, ізаляваным мы, беларусы, уявіць свой голас, сваё слова і не можам, і не жадаем. Бо з чым большай колькасцю галасоў яно будзе перагукацца і пераклікацца — тым большым розгаласам будзе яно валодаць, тым далей і мацней яно будзе чутно ў свеце.

Таварыству, усім, хто лічыць сябе яго сябрамі, пажадала плённай працы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР **Н. Мазай** (выступленне было надрукавана ў мінулым нумары «ЛіМа»).

На асобных пунктах Статута ТБМ спыніўся **А. Падлужны.** Ён гаварыў таксама аб гістарычных аспектах і міжнародным вопыце ўстанаўлення дзяржаўнасці мовы, прыводзіў найбольш характэрныя прыклады з практыкі ўвядзення статуса дзяржаўных моў.

**У. Конан** ўнёс пэўныя папраўкі і ўдакладненні да статута, гаварыў аб той атмасферы, што склалася ў адносінах да беларускай мовы ў Акадэміі навук БССР.

Палемічны характар насіла выступленне **А. Мальдзіса.** Ён крытыкаваў тэндэнцыю шукаць крамолу ў неардынарных падыходах, у сённяшніх памкненнях гаварыць праўду пра нашу гісторыю і культуру.

Адносіны да беларускай мовы, да прадстаўнікоў беларускай літаратуры ў Талачыне, як засведчыла **Я. Мальчэўская,** пакуль што прымушаюць жадаць лепшага. Перабудову тут зразумелі па-свойму: даходзіць нават да публічнага шальмавання некаторых выдатных беларускіх пісьменнікаў, да трэціравання ўсяго беларускага.

Касцёл і беларуская мова — галоўная тэма выступлення **В. Чарняўскага.** Расказаўшы аб сваёй паездцы ў Англію, сустрэчах з беларусамі і тымі, хто прапагандуе за мяжой беларускую культуру, ён адзначыў, што поспех прыйдзе толькі тады, калі ніхто, незалежна ад яго веры, не будзе абыякавым да лёсу сваёй мовы, а, значыць, і да лёсу сваёй нацыі.

Трывога за перабудову гучала ў выступленні **У. Шушкевіча.** Ён гаварыў аб сваіх асабістых нягодах у сувязі з тым, што мае дачыненне да адраджэнскага руху, аб тым, з якой цяжкасцю шукаў у райцэнтры работу.

Пра дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку гаварыў **М. Гайдук.** Ён пазнаёміў прысутных з некаторымі беларускамоўнымі выданнямі, якія выйшлі ў Польшчы апошнім часам, заклікаў да творчага супрацоўніцтва. Увогуле, мяркуе М. Гайдук, у Беларусі павінны больш увагі ўдзяляць супляменнікам на Беласточчыне, тым, хто любіць, шануе і прапагандуе там беларускае слова.

Шэраг крытычных закідаў у адрас Міністэрства народнай адукацыі БССР прагучала ў выступленні **А. Белакоза.** На канкрэтных прыкладах ён паказаў, што зроблена яшчэ далёка не ўсё, каб беларуская мова заняла ў сярэдняй школе належнае месца.

**Г. Прыма** закранула такія пытанні, як адносіны да Беларускага народнага фронту за перабудову, падзялілася вопытам патрыятычнага выхавання ў беларускамоўным дзіцячым садку, які яна ўзначальвае.

Без закона аб мове проста не абысціся — перакананы **А. Лойка.** Ён гаварыў аб палітычных і гістарычных каранях так званага білінгвізму, аб яго адмоўнай ролі ў развіцці нацыянальнай культуры.

**М. Шавыркін** гаварыў аб неабходнасці скіроўваць увагу на канкрэтныя справы, неабходнасці дзейнічаць, працаваць дзеля рэалізацыі пэўных праграм моўна-нацыянальнага адраджэння.

Выказаўшы асобныя заўвагі па Статуту ТБМ, падкрэсліўшы, што беларуская мова павінна стаць адзінай дзяржаўнай мовай у БССР, **П. Садоўскі** сказаў, што каб адрадзіць родную мову па-сапраўднаму, неабходна кансалідацыя ўсіх сіл грамадскасці. Пра гэта нагадалі таксама **Я. Матусевіч** і **Я. Клімуць.**

Сакратар Мінскага гаркома партыі **П. Краўчанка** расказаў аб тым, што ўжо зроблена і плануецца зрабіць у горадзе ў бліжэйшы час па адраджэнні беларускай мовы, аб тым, што гарком партыі выступіў за тое, каб беларуская мова ў рэспубліцы мела статус дзяржаўнай. Сёння, падкрэсліў прамоўца, як ніколі раней, неабходна дзейнічаць, рыхтаваць насельніцтва псіхалагічна да таго, што неўзабаве родная мова загучыць паўсюдна. Першы этап — выкладанне па-беларуску ў школах, потым — у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, вучылішчах. Беларуская мова павінна прыйсці на курсавыя камбінаты, у гандаль, у наш штодзённы побыт.

Я ўжо семнаццаць гадоў працую выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, сказаў **А. Раманоўскі,** і пераканаўся, што ў ВНУ ніхто не рыхтуе належным чынам настаўнікаў-беларусазнаўцаў. Не ўсё добра і ў інстытутах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Пра беларускую мову тут проста «забыліся» — выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры перападрыхтоўкі не праходзяць, астатнія ж педагогі вымушаны слухаць лекцыі, наведваць заняткі па-руску. Нават у Сенніцкай школе, у якой у свой час вучыўся наш будучы пясняр Янка Купала, выкладала настаўніца А. Сонцава, якая падрыхтавала сапраўднае сонца беларускай паэзіі, сёння гаспадарыць руская мова, — падкрэсліў прамоўца.

**А. Трусаў,** гаворачы пра дзейнасць будучага ТБМ, выказаў прапанову стварыць у ім некалькі камісій. На яго думку, патрэбны тэрміналагічная камісія, сацыялагічная, геральдычныя, тапанімічная камісіі. Унёс А. Трусаў прапанову распаўсюджваць свайго роду падпісныя лісты, каб жадаючыя маглі ахвяраваць грашовыя сродкі на практычную дзейнасць таварыства.

Клуб аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына» ў Вільнюсе робіць па сутнасці першыя крокі, зазначыў **В. Стэх,** але зроблена ўжо не так і мала. Клуб карыстаецца шырокай падтрымкай. Усяго ў Літве 60 тысяч беларусаў, на чацвёртым месцы, па колькасці, беларускамоўнае насельніцтва ў Вільнюсе. Сярод іх нямала тых, хто стаіць за сапраўднае адраджэнне беларускай мовы. Дапамагае ў рабоце Літоўскі фонд культуры, пры якім і існуе клуб аматараў беларускай культуры. Атрымалі дазвол на адкрыццё беларускай школы. Адзіная просьба,— звярнуўся прамоўца да залы,— дапамажыце падручнікамі, кадрамі.

У сваім выступленні **А. Залескі** прывёў канкрэтныя факты аб тым, як у розныя гады, пачынаючы з перадваеннага часу, беларуская мова выціснялася, як «гора-інтэрнацыялісты» рабілі ўсё, каб паўсюдна замяніць яе рускай мовай, як у прымусовым парадку былі праведзены змены ў беларускім правапісе, як ён пачаў падганяцца пад рускі.

Калі беларускай мове будзе нададзены статус дзяржаўнай, яна выжыве, расправіць свае крылы, зазначыў **В. Вабішчэвіч.** Дзе, а на месцах, у вёсках, такіх гарадскіх пасёлках, як наш Давыд-Гарадок, ніхто гэтаму працівіцца не будзе, хіба знойдзецца які-небудзь «звышінтэрнацыянальны» чыноўнік. Значыць, трэба брацца за справу і як мага хутчэй.

Трывожнае, крытычнае становішча склалася ў сярэдняй школе з выкладаннем беларускай мовы, літаратуры. Але хіба яно лепшае ў педагагічных вучылішчах? На гэты аспект праблемы звярнуў увагу **М. Пятрэнка.**

У нас існуе не беларуска-рускае двухмоўе, зазначыў **В. Вячорка,** а па сутнасці паўмоўе, таму што пераважная большасць людзей не ведаюць ні беларускай, ні рускай мовы. Ён выказаў меркаванне, што руская мова павінна быць мовай не міжнацыянальных зносін, а міжрэспубліканскіх.

Сама час падумаць аб стварэнні беларуска-рускіх і руска-беларускіх тэхнічных слоўнікаў, мяркуе **А. Зміцрук.**

Незваротнасць працэсу, які адбываецца сёння, падкрэсліў **А. Бутэвіч.** У такой важнай справе, як пашырэнне ўжытку беларускай мовы, неабходна цярплівасць. А гэта залежыць ад кожнага паасобку і ад усіх разам. Цяпер асноўную ўвагу неабходна звярнуць на абласное і раённае звяно. Цэнтральны Камітэт жа сваю пазіцыю па пытаннях беларускай мовы ўжо выказаў.

Стварэнне Таварыства беларускай мовы — падзея, можна сказаць, гістарычная, заўважыў **А. Каўка.** Нарэшце гэтую важную справу бярэ ў свае рукі сам беларускі народ. Таварыства стане свайго роду помнікам усім, хто ў розныя часы змагаўся за правы сваёй роднай мовы на жыццё. А. Каўка расказаў аб тых захадах, якія робяцца сярод беларусаў у Маскве па далучэнні людзей да беларускай мовы, па прапагандзе яе.

Патрэбен не толькі Закон аб беларускай мове, перакананы **Я. Цумараў,** але і Дэкрэт аб мове. Ён выказаў практычныя заўвагі па Статуце ТБМ, гаварыў аб тым, што трэба зрабіць у бліжэйшы час, каб беларуская мова сапраўды набыла правы грамадзянства.

Асобныя заўвагі і прапановы па некаторых палажэннях Статута ТБМ выказалі **Л. Баршчэўскі, М. Смык, А. Белы, М. Купава.**

На сходзе было вырашана надаць Таварыству беларускай мовы імя Францыска Скарыны.

# Патрабуецца дэмакратызм!

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ




У «ЛіМе» за 31 сакавіка г. г. надрукаваны артыкул мастацтвазнаўцы П. Васілеўскага «Патрабуецца лідэр» (пасля выставачнага «марафона»)». Дзіўнае ўражанне пакідае гэты артыкул. З аднаго боку, падзагаловак нагадвае, што нататкі аўтара прысвечаны вынікам «марафона» — шэрагу рэспубліканскіх выставак па кожнаму віду мастацтва ў 1988—1989 гг., якімі СМ БССР адзначыў 50-годдзе свайго ўтварэння і 70-годдзе БССР і КПБ. З другога — артыкул прысвечаны праблемам беларускай пластыкі, аглядам якіх «мы, так бы мовіць, закрываем тэму». І адразу ж паўстае пытанне: чаму «закрываем»? Што, ужо высветлены творчыя вынікі «марафона»? Чаму П. Васілеўскі нават не абмовіўся аб неабходнасці неяк абмеркаваць творчы год за «круглым» ці «квадратным» сталом у «ЛіМе»? Справа ж зроблена неардынарная, упершыню за 70 гадоў беларускай мастацкай культуры. Чаму мастацтвазнаўца з такой перакананасцю бярэ на сябе ролю асабіста вырашаць такія справы?

Адна з асаблівасцей перабудовы, здаецца, выяўляецца ў тым, што мы адмаўляем культ асобы Сталіна і адначасова сцвярджаем культ асобы як прынцып. Сёння, як ніколі раней, нам патрэбны розныя асобы, асобы творчыя, актыўныя, дзейныя. Аднак гэта павінны быць асобы і прафесійна адукаваныя, і дэмакратычна добразычлівыя, тады грамадства дае магчымасць ім вырашаць нейкую справу асабіста. У дадзеным выпадку П. Васілеўскі, на жаль, не праяўляе такіх якасцей. На жаль, памылак у яго артыкулах (гэтым і «Калі няма песні» — «ЛіМ» за 3 лютага 89 г.) так многа, што рабіць вытрымкі проста немагчыма — трэба перапісваць абодва тэксты амаль па палове. Таму абмяжуюся некаторымі «адкрыццямі» ў «закрытай» тэме.

**У артыкуле «Калі няма песні» мастацтвазнаўца піша:**

**«Твор дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва абавязкова павінен быць прыгожым у самым прамым сэнсе.., што неабавязкова ў жывапісе, графіцы, скульптуры». (Так што не турбуйцеся, мастакі, аб прыгажосці сваіх твораў — мастацтвазнаўца загадзя дае вам індульгенцыю).**

**«А значыць у прыкладнікоў больш магчымасцяў для самавыяўлення, для эксперыменту ў форме і тэхніцы». (Так што не клапаціцеся, мастакі другіх відаў, і аб пошуку — безнадзейна.)**

**«Чаму ж так сумна было на рэспубліканскай выстаўцы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва зараз? Адказ, як ні дзіўна, просты: гледачы сёння ўжо іншыя; а мастакі ў сваёй большасці — яшчэ тыя ж. Людзі навучыліся думаць і не баяцца гаварыць». Якраз «прастата» вывадаў мастацтвазнаўцы і здзіўляе. Ці не ён быў сведкам неадукаванасці гледачоў на выставах А. Ісачова? Ці не ён з'яўляецца сведкам, што далёка не ўсе яшчэ людзі сёння ўжо навучыліся думаць, інакш бы яны не цярпелі антыдэмакратычныя пастановы, загады, утаймаванні бюракратычнай улады? Як жа ж трэба НЕ ВЕДАЦЬ, НЕ АДЧУВАЦЬ дух жыцця беларускіх мастакоў, каб гаварыць, што сёння нашы мастакі тыя ж, што былі ўчора, у 1984 г. Быццам не было выставак «Эксперыментальны тэкстыль», «Чашка-падушка» ў Доме кіно ў 1988 г. Быццам гэта не мастакі-дэкаратывісты літаральна ўзарваліся і прымусілі дырэкцыю МФ БССР пасля дваццацігадовых абяцанак распачаць будаўніцтва сваёй эксперыментальнай базы. Не, дарагі мастацтвазнаўца, няведанне — не аргумент. Ды і, чэсна сказаць, цяжка ўявіць, каб адзін П. Васілеўскі ішоў з перабудовай «у нагу», а ўся секцыя ДПМ — па-за перабудовай. Ну, а ніяк жа нельга паверыць, што ўсе нашы мастакі такія ўжо закарэлыя кансерватары з маладых нагцей.**

Не буду гаварыць аб лёгкасці, з якой П. Васілеўскі зневажае нашых медальераў на выставе ДПМ (Ул. Мелехаў, Р. Іваноў заслугоўваюць хаця б павагі за свае творчыя здабыткі на ўсесаюзных выставах і працу на кухнях без майстэрань). Не буду гаварыць, што мастацтвазнаўца не разумее сутнасці мастацкіх пошукаў В. Прыешкіна, М. Байрачнага, Т. Сакаловай — гэта справа густавага ўзроўню, які патрабуе і напрацаванасці вока, і агульнаэстэтычнага разумення мастацкіх праблем. Але нельга ж абмінуць самае значнае «адкрыццё» ў гэтым артыкуле: «Мастацтва Казіміра Малевіча магло ўзнікнуць толькі на беларускай глебе, толькі на гэтай зямлі». Канечне ж, нам вельмі імпануе, што К. Малевіч, відавочна, быў па нацыянальнасці беларусам. Аднак гіпотэза Я. Шунейкі (гл. «Мастацтва Беларусі», 1989, № 2) аб народнабеларускіх вытоках тэорыі К. Малевіча застаецца толькі жаданнем, бо сам К. Малевіч ні слова не гаворыць аб сувязях сваёй тэорыі з беларускай народнай творчасцю (гл. К. Малевич. Каталог выставки, посвященной 110-летию со дня рождения. Амстердам. 1989. Автобиографические заметки, с. 102—112). Паляк па паходжанні, народжаны ў Кіеве, жыхар Курска, а потым — Масквы, К. Малевіч адкрыў супрэматызм у 1913 годзе, а ў Беларусь упершыню (у Віцебск) прыехаў у верасні 1919 г. Ці ўжо такая бедная на таленты зямля Беларусі, каб ірваць коўдру гісторыі, каб цягнуць яе на сябе? Так, К. Малевіч быў у Віцебску да мая (прыкладна) 1922 г. (гл. Каталог, с. 81) і тут развіў сваю тэорыю. Але пры гэтым ён не гаворыць аб сувязі з беларускай арнаментальнай творчасцю (хаця наогул сялянскае мастацтва мела значны ўплыў на творчае станаўленне мастака). Сувязь супрэматызму з арнаменталістыкай так «проста», як гэта робіць П. Васілеўскі, знайсці немагчыма. Знешняе, павярхоўнае падабенства фігур балгарскага, беларускага ці латышскага арнаментальнага крыжа нельга атаясамліваць з супрэматычнымі фігурамі. Паміж імі —бездань няяўных ведаў. Высвятляць усё гэта трэба спецыяльна, а не «проста адкінуць выяўленчую сутнасць ад складанай тэарэтычнай надбудовы», як гэта прапануе аўтар артыкула. Падкрэсліваю: зараз дадзены толькі некаторыя, павярхоўныя памылкі нашага мастацтвазнаўцы ў першым артыкуле.

А вось — з другога (таксама толькі павярхоўныя).

Аўтар пералічыў не ўсе выставы «марафона»: забыты выставы мастакоў тэатра і кіно, маладзёжная, ветэранаў, абласных мастакоў, выстаўка плаката і шрыфту. Аўтар запамятаваў, што ганаровыя званні на этыкетках твораў ужо год як не пішуцца. Аўтар зблытаў, што супраць М. Савіцкага «кампанію» пачаў не СМ БССР, а група мастакоў (а гэта — не адно і тое ж). Аўтар не ведае тэхналогіі скульптуры: тысячу гадоў назад не было пабедзітавых зубілаў, не было кампрэсараў, пункціравальных машынак і г. д. для апрацоўкі камення. Аўтар не ведае, што дагаварная сістэма ў выставачнай дзейнасці СМ БССР, па-першае, скарачаецца, па-другое, зусім не вызначае сэнс сацыяльнага заказа, што ў СМ ужо няма ўчарашняга «сацыяльнага заказа», ён асуджаны самімі ж мастакамі. Аўтар не дае сабе працы ўбачыць у развіцці творчасць Анатоля Анікейчыка, у адчуванні жанравых, родавых,

# ...А навошта ён вам?

## ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

ПАВАЖАНЫ Аляксандр Анатольевіч, ваш ліст у рэдакцыю асабіста для мяне нечаканасцю не быў. Бо цягнецца «непаразуменне» паміж намі (калі так можна мовіць) з таго часу, як у «Мастацтве Беларусі» (№ 2, 1988) быў надрукаваны матэрыял «Больш аб'ектыўнасці, аналітычнасці». У тым артыкуле я і Таццяна Гаранская выказалі нязгоду з тым, што вы ў сваёй рэцэнзіі на рэспубліканскую маладзёжную выстаўку адным махам закрэслілі, «закрылі» цэлы перыяд у развіцці беларускага выяўленчага мастацтва. Прычым, перыяд вельмі плённы, вызначальны ў адраджэнні беларускай нацыянальнай тэматыкі, у асэнсаванні гісторыка-культурнай спадчыны беларускага народа. Фактычна вы адмаўлялі неабходнасць нацыянальнага пачатку ў мастацтве, дэманстравалі сваё стаўленне да Беларусі як да культурнай правінцыі, гэткага мастацкага «Падмаскоўя».

**У «Мастацтве Беларусі», відаць, дагэтуль памятаюць сварку, якую вы ўчынілі ў рэдакцыі пасля выхаду ў свет нумара з нашым водгукам на той ваш артыкул. Вы тады, дарэчы, у знак пратэсту забралі з рэдакцыі свой матэрыял, які рыхтаваўся да друку: абвясцілі, што паміж вамі і часопісам усё скончана.**

**Пасля майго артыкула «Крыкам нічога не пабудуеш» («Мастацтва Беларусі», № 7, 1988) вы гаварылі, што за такую публікацыю на мяне трэба падаваць у суд.**

**На абмеркаванні сёлетняй рэспубліканскай выстаўкі скульптуры і графікі вы ў вуснай форме выказалі шэраг тэзісаў, паўтораных зараз у лісце ў рэдакцыю. Але на трыбуне вы больш «паслядоўны», адкрыта абвінавацілі мяне ў беларускім нацыяналізме і шавінізме. Таму я не магу з вамі згадзіцца, калі вы сцвярджаеце, што «ніхто не збіраецца «вешаць ярлыкі» на маладога члена СМ БССР П. Васілеўскага».**

Хоць ліст-артыкул «Патрабуецца дэмакратызм» амаль цалкам прысвечаны маім публікацыям, хоць ёсць у ім і прамы зварот да мяне («даражэнькі мастацтвазнаўца») і нават «таварыскія» парады як мне жыць далей — галоўны адрасат іншы. Цытую: «Ніхто не збіраецца «прапанаваць аргвывады» рэдкалегіі «ЛіМа» — гэта яе справа» — намёк даволі празрысты... Як гэта нагадвае нядаўнія часы, калі з апанентамі змагаліся лістамі (падпісанымі і ананімнымі) у партком, прафком, ЖЭК, міліцыю з просьбамі, прапановамі, патрабаваннямі высветліць, прыняць меры, звольніць з працы, пасадзіць.

Зразумела, перш чым «прапанаваць аргвывады», трэба намаляваць «вобраз злачынцы». З вашых слоў, Аляксандр Анатольевіч, «наш мастацтвазнаўца» (з чаго вы ўзялі, што я ваш?) — «асоба прафесійна неадукаваная і дэмакратычна нядобразычлівая», ён «зневажае беларускую культуру» (а вам ад гэтага — «балюча... балюча...»), «шчодра сыпле дустам злосці, тапоча ботамі». Проста Бармалей нейкі! Не хадзіце, маўляў, дзеці ў Афрыку гуляць! Ну што ж, калі ваша «напрацаванае вока» бачыць мяне такім, дык, мабыць, гэта адпавядае вашаму «густаваму ўзроўню».

**Я не збіраюся разбураць у вашых вачах «вобраз ворага», не збіраюся вас пераконваць у сваёй праваце — але ж паколькі маё маўчанне можа быць успрынята як згода з абвінавачваннямі ў мой адрас, я дазволю сабе выказаць некаторыя меркаванні.**

**«Чаму П. Васілеўскі, — пытаецеся вы, — нават не абмовіўся аб неабходнасці неяк абмеркаваць творчы год (...) у «ЛіМе»?» Падобнае пытанне можна задаць і вам, паважаны Аляксандр Анатольевіч. Чаму вы як супрацоўнік апарату СМ БССР не паруліліся, не ўзнялі пытанне, не паспрыялі таму, каб арганізаваць рэспубліканскую (а яшчэ лепей — міжрэспубліканскую ці ўсесаюзную) навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную вынікам творчага года на Беларусі? Ці вы лічыце, што выставачны «марафон» і 50-гадовы юбілей СМ БССР таго не вартыя?**

Не разумею, чаму вас абурыў мой тэзіс, што «гледачы сёння ўжо іншыя, а мастакі ў сваёй большасці — яшчэ тыя». Відавочна, што градус палітычнага жыцця на Беларусі сёння значна вышэйшы, чым жыцця культурнага. Нам яшчэ далёка да Прыбалтыкі, але ўжо гістарычны леташні мітынг у Курапатах, стварэнне таварыства «Мартыралог Беларусі» і аргкамітэта БНФ «Адраджэнне», «Мінскія Дзяды-88» і лютаўскі агульнагарадскі мітынг на стадыёне «Дынама», мітынг-рэквіем з нагоды трэцяй гадавіны Чарнобыля, мітынгі мінчан, прысвечаныя З'езду народных дэпутатаў, сведчаць за тое, што грамадства скалыхнулася, што расце сацыяльная актыўнасць, пачалася перабудова мыслення. Нешта адбываецца і ў мастацтве, але тут працэс аднаўлення замаруджаны.

У той час, як у прэсе ідзе шырокая дыскусія аб лёсе беларускай культуры і яе падмурка — мовы, востра ставіцца пытанне аб наданні беларускай мове статусу дзяржаўнай, вы, Аляксандр Анатольевіч, уласнаручна здымаеце з экспазіцыі мінулагодняй маладзёжнай выстаўкі плакат «Двухмоўны беларус». «Звязда», «Советская Белоруссия», «Чырвоная змена» друкуюць дыскусійныя матэрыялы па пытанні нацыянальнай сімволікі і гістарычнай памяці. У гэты ж час з цэнтральнага стэнда на выстаўцы «Маладзёжная-89» па загаду «прыёмнай камісіі», здымаюць выкананую ў абстрактнай манеры выяву конніка (а яшчэ кажуць, што людзі не разумеюць абстрактнага мастацтва!). Разам з тым нельга не пагадзіцца з вамі, што гледача трэба выхоўваць. Узоры невуцтва гледачоў, як вы слушна заўважылі, дала і выстаўка А. Ісачова. Мабыць, вы мелі на ўвазе той абуральны факт, што аўтару аднаго з артыкулаў пра гэту выстаўку «аматары» творчасці мастака пагражалі па тэлефоне фізічнай расправай за недастатковую, як ім падалося, павагу да асобы і карцін Ісачова. Якая ўжо тут культура, калі ў справу ідуць такія «аргументы»! Што датычыць вашага каламбура пра секцыю ДПМ, якая строем маршыруе «ў нагу» з перабудовай, дык лічу гэты вобраз не вельмі ўдалым. Мастакі не ходзяць строем. Творчасць — пошук уласнага шляху. Гэта банальная ісціна.

**Чаму вам так не даспадобы беларускае паходжанне Казіміра Малевіча, чаму вам не хочацца, каб ягоная творчасць разглядалася ў кантэксце беларускай культуры? «Паляк па паходжанні...» Ці ж вы не ведаеце, што ў Расійскай імперыі слова «паляк» мела, у першую чаргу, канфесійны сэнс. «Паляк» — сінонім паняцця «каталік». Нямала «палякаў» і на Беларусі. «Сам К. Малевіч ні слова не гаворыць аб сувязях сваёй тэорыі з беларускай народнай творчасцю», — катэгарычна сцвярджаеце вы. І дарма. Бо не ўся тэарэтычная спадчына К. Малевіча вывучана. Вядома, што і польскія, і расійскія даследчыкі фактычна ігнаравалі беларускі пачатак у творчасці К. Малевіча. Тэма «Малевіч і Беларусь» (таксама, як «Шагал і Беларусь») — вельмі актуальная. Навуковы пошук у гэтым кірунку дазволіць больш глыбока асэнсаваць творчасць аднаго з рэфарматараў мастацтва XX стагоддзя, наблізіцца да разумення феномена Казіміра Малевіча. Аб сувязі з беларускай народнай традыцыяй сведчаць самі творы Малевіча. І гэты аргумент абвергнуць немагчыма.**

стылістычных задач пры стварэнні, напрыклад, «Прарыву» і пушкінскага цыкла... Аднак і ўсё гэта — не галоўныя недахопы артыкула.

**Больш значна тое, што артыкул, прысвечаны праблемам беларускай пластыкі, фактычна не мае напаўнення фактамі. У артыкуле ёсць усё, акрамя самой скульптуры: блытаніна тэмы (усяго па трошкі), знявага да скульптараў (не названа ніводнага твора 1-й выстаўкі беларускай скульптуры за 70 гадоў!), пустата неадукаваных меркаванняў аб спецыфіцы пластыкі. Тым больш здзіўляе спіс імёнаў, якія, на погляд аўтара, прыгодныя для «вандроўкі» на маладзёжную выставу прыбалтыйскай скульптуры «Яўністэ-88». Спрэчна: як можа туды трапіць Леў Гумілеўскі — даўно ўжо сталы мастак, як могуць туды трапіць «за-маладыя» А. Фінскі, В. Антановіч? Наогул, на выстаўцы была гісторыя беларускай пластыкі ад Бразера да А. Шомава і В. Панцялеева (яшчэ студэнтаў БДТМІ). Як жа можна «закрываць» тэму, так нічога і не сказаўшы, не асэнсаваўшы 70 гадоў лёсу, матэрыяльна-вытворчых і творчых праблем? Як жа трэба не любіць усё гэта, каб адпісвацца «галачкай» у гісторыі, старонкамі якой з'яўляецца зараз манапольная трыбуна П. Васілеўскага ў «ЛіМе»? Як жа трэба зневажаць тую самую беларускую культуру, аб якой так клапоціцца П. Васілеўскі?**

**Балюча... балюча...**

Зразумела, гэтыя артыкулы абразілі не толькі мастакоў. Не ўпрыгожваюць яны і наша мастацтвазнаўства. Адсутнасць добразычлівасці, ведаў, трапяткога жадання дапамагчы новым, зялёным парасткам аднаўлення, творчай ініцыятывы, надзеі і дзейнасці — усяго, чаго не можа не адчуваць мастацтвазнаўца ў сённяшняй перабудовачнай атмасферы мастацкага жыцця Беларусі. Замест арганічнага аздаблення і аховы слабых, але ўжо новых галінак тэарэтык зноў шчодра сыпле дустам злосці, тапоча ботамі, жорстка, без усялякай магчымасці на адказ. П. Васілеўскі абвінавачвае мастакоў у адрыве ад нацыянальна-народных каранёў культуры (што само па сабе спрэчна таксама), але сам увачавідкі раскрывае свой адрыў ад рэальнага працэсу ў мастацкім жыцці.

Не, ніхто не збіраецца «вешаць ярлыкі» на маладога члена СМ БССР П. Васілеўскага. Бог даруе — сумленне падкажа. Ніхто не збіраецца «прапанаваць аргвывады» рэдкалегіі «ЛіМа» — гэта яе справа. Асабіста Пётру Васілеўскаму па-таварыску можна толькі нагадаць: «Ударом кисти не пробей холста!» Дабрыня, інтэлігентнасць і веды, веды — зброя дзеяча культуры. «Крыкам нічога не зробіш».

Аднак жа «ЛіМ» — зусім не вотчына П. Васілёўскага. Старонкі газеты — гэта яшчэ і адказнасць перад нашчадкамі за думкі нашага часу, за наша разуменне нашых праблем і іх вырашэнне. І не вуснамі аднаго аўтара гаворыць наша мастацкая думка. Таму зразумела, што тэму, якую так «проста» (ах, як жа «проста» вырашае П. Васілеўскі тэарэтычныя, мастацкія, культурна-сацыяльныя праблемы!) закрыў загадчык аддзела ў «ЛіМе», трэба абвясціць адкрытай і даць магчымасць неяк асэнсаваць вынікі мінулага года на старонках штотыднёвіка. І пры гэтым абавязкова даць магчымасць удзельнікам абмеркавання пачытаць карэктуру, бо пасля «рэдагавання» аўтарскага тэксту часам бывае сорамна за сваё прозвішча ў «ЛіМе». Так было ў мяне ўжо двойчы. На жаль, бо трыбуна гэта паважаная, гучная, як кажуць, самая хуткая дапамога ў Беларусі на ўсё наша мастацкае жыццё.

**Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ,**
**мастацтвазнаўца.**

---

**Скажу болей, нават калі б К. Малевіч на Беларусі толькі развіў сваю тэорыю, дык і адно гэта дало б нам права лічыць яго беларускім мастаком. Інакш, згодна вашай логіцы, трэба выкрасліць з расійскай культуры Арыстоцеля Фіяраванці, Феафана Грэка, Эцьена Фальканэ і многіх іншых творцаў, якія прыехалі ў Расію ўжо сталымі майстрамі і тут толькі развілі свае творчыя прынцыпы.**

Таксама не магу згадзіцца з вашым сцвярджэннем, нібыта ў СМ ужо няма ўчарашняга «сацыяльнага заказа» і падпарадкаванай яму дагаворнай сістэмы. Гэта здарыцца не раней, чым будзе створаны свабодны рынак мастацтва з сістэмай камерцыйных галерэй, мастацкіх аўкцыёнаў, з канкурэнцыяй талентаў і барацьбой за гледача (і пакупніка). І галоўнае — з жыццёвым узроўнем, пры якім «сярэдні» савецкі чалавек зможа дазволіць сабе купіць з «палучкі» карціну, каб упрыгожыць сцяну сваёй шматпакаёвай кватэры ці ўласнага дома.

Ёсць такі палемічны прыём — прыпісаць апаненту словы, якіх ён не гаварыў, а потым гэтыя словы «абвергнуць». Напрыклад: «Аўтар не ведае тэхналогіі скульптуры: тысячу год назад не было пабедзітавых зубілаў, не было кампрэсараў...» Пакажыце мне, Аляксандр Анатольевіч, тэкст, дзе я сцвярджаў бы, што тысячу год назад гэтыя інструменты існавалі. Ці такое: «Аўтар зблытаў, што супраць М. Савіцкага «кампанію» пачаў не СМ БССР, а група мастакоў». А то без вас я не ведаў! Зазірніце ў мой артыкул. Там гаворка ідзе пра «кампанію ў СМ БССР». Такім чынам аўтар артыкула «Патрабуецца лідэр» не вінаваціць Саюз мастакоў як арганізацыю і, ў прыватнасці, праўленне СМ БССР ва ўдзеле ў гэтай акцыі. Абзац майго артыкула, дзе прыгадваецца выстаўка «Яўністэ-88», можа, стылістычна і недасканалы. Але ж ягоны сэнс прачытваецца адназначна: гаворка ідзе пра работы беларускіх скульптараў, якія было б не сорамна выставіць побач з тымі скульптурамі, якія я бачыў на выставе ў Вільнюсе. І ні ў якім разе не пра ўдзел Л. Гумілеўскага і яго «за-маладых» калег у маладзёжнай выставе. Можна было б аспрэчваць і іншыя вашы «заўвагі», але ж не буду злоўжываць увагай чытача.

Нават назвай свайго ліста ў рэдакцыю — «Патрабуецца дэмакратызм» — вы спрачаецеся з маім артыкулам «Патрабуецца лідэр». На маю думку, адно другога не выключае. Тым больш, што калі меркаваць па тоне вашага ліста, вы б ад ролі правадыра, ці як мінімум — «настаўніка» моладзі не адмовіліся б, а дэмакратызм разумееце вельмі своеасабліва. Аб гэтым сведчаць рассыпаныя на старонках ліста «таварыскія» парады, павучальна-паблажлівы напамінак П. Васілеўскаму аб ягоным грамадзянскім абавязку і нават «каштоўныя ўказанні» аддзелу выяўленчага мастацтва «ЛіМа», як трэба асвятляць мастацкае жыццё.

Хацеў бы і я выказаць вам, Аляксандр Анатольевіч, заўвагу. Зыходзячы з той акалічнасці, што вы ўступілі ў творчы саюз годам пазней за мяне, з вашага боку недарэчна весці са мною размову з пазіцыі «старэйшага таварыша» і нагадваць мне, што я «малады член СМ БССР». Тым больш, што творчы саюз — гэта не казарма, дзе па няпісаных законах стараслужачыя («дзяды», «дзембелі») маюць шэраг прывілей перад навабранцамі. «Дзедаўшчына» — гэта кепска, гэта вельмі недэмакратычна.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
**карэспандэнт аддзела выяўленчага мастацтва «ЛіМа».**

---

Калі мяне як крытыка ці навукоўца-тэатразнаўцу пытаюць пра галоўную тэндэнцыю ў развіцці беларускай сцэны апошніх дзесяцігоддзяў, я амаль аўтаматычна адказваю: рэжысёры што пальчаткі мяняюцца ў залежнасці ад настрояў функцыянераў ад культуры ці ад настрояў труп, а часам і ад іх (рэжысёраў) уласнай прафнепрыдатнасці. Адказ просценькі, здавалася б. Але ж за ім... За ім—прычыны і вынікі. Прычыны—занядбанае поле беларускай культуры ўвогуле, тэатральнай—у прыватнасці; адміністратыўна-каманд-



# «ФЕНОМЕН РАЕЎСКАГА»?

ныя прыёмы кіравання тэатральнай справай; ушчэнт разнесеная рэжысёрская школа. Вынікі—адсутнасць адметных сцэнічных твораў, г. зн. дакладных эстэтычных праграм, ідэй; падзенне прафесійнага ўзроўню труп; выпадкова стракатыя ці, наадварот, роўненькі, без узлётаў і падзенняў рэпертуар.

— А як жа Раеўскі і Купалаўскі тэатр? — парыруюць мае апаненты. І яны маюць рацыю —усё творчае жыццё ў адным тэатры (аж з 1967 года!), і 16 гадоў у якасці галоўнага рэжысёра! Феномен,—адказваю,—бо факт гэты не ў сувязі з правілам, а насуперак яму...

Ці лёгка ісці насуперак? Цяжка. І ідучы, ці не ламаюцца дровы? Ламаюцца. І трэскі ляцяць... А ён ідзе. Упарта, цвердалоба. Гэта злуе не толькі нядобразычліўцаў, але і аднадумцаў, нават сяброў. І, што дзіўна, злуе абыякавых людзей, якім ўсё роўна, што там будзе з купалаўцамі далей.

Так, Раеўскі—выключэнне з «правілаў гульні». Яго «не з'ела» трупа, хоць амбіцыі асобных акцёраў часам непамерныя. Яго «не скінула» начальства, хоць творчыя няўдачы былі, нават цэлымі палосамі, пасля якіх ён, казалі, «вісеў на валаску». І атакі ваяўнічай ахоўнай крытыкі, што так пільна аж па сённяшні дзень стаіць на варце састарэлых догмаў, таксама не далі вынікаў. Не пакінуў Валерый Раеўскі тэатр і сам, не здаўся, хоць, упэўнены, хвіліны (а можа, нават і дні, месяцы) роспачы былі.

Ведаю контрдоказы маіх апанентаў: не «скінулі», бо няма на каго памяняць, не «з'елі», бо не вельмі хацелі, не «пакінуў», бо няма куды ісці. Няпраўда! І не выкраслены з гісторыі купалаўцаў гэтыя 16 год. І не разбураны славутыя традыцыі. І рух тэатра відавочны. Можа, праўда, не такі паслядоўны, як бы нам хацелася... Але ж ці хацелася ўсім нам дажыць да руінаў беларускай культуры, браць віну за якія не варта адно толькі нам.

І ці не прымяншаем мы часам заслуг Раеўскага ў тым, што не парваліся, не зламаліся тыя традыцыі, якімі заўсёды сілкаваўся і сілкуецца Купалаўскі тэатр і яго гледачы? У тым, што так эпічна і адначасова індывідуальна ўзнаўляецца карціна лёсу народа нашага на скрыжаванні эпох у спектаклях «Трыбунал» і «Плач перапёлкі», «Апошні шанц», «Радавыя», «Страсці па Аўдзею»? Героі Макаёнка, Быкава, Чыгрынава, Дударава, Бутрамеева паўсталі ў спектаклях Раеўскага і ў сваёй адкрыта нацыянальнай прыналежнасці, і ў агульнасветапоглядных характарыстыках.

І яшчэ адна дабратворная традыцыя беларускай сцэны не знявечана. Лепшыя рэжысёры, што ў мінулым працавалі ў тэатры імя Я. Купалы, звяртаючыся да іншанацыянальнай драматургіі, ставілі яе так, што тая, своеасаблівая сваёй паэтыкай, станавілася блізкай і зразумелай нам, беларусам. Бо пастаноўшчыкі знаходзілі ў ёй агульначалавечы сэнс, акцэнты расстаўлялі на кропках сутыкнення іншанацыянальных характараў з беларускімі, выводзячы важную агульначалавечую ідэю. Вось і ў Раеўскага пераканаўча загаварылі па-беларуску малдаване, рускія, грузіны. Героі спектакляў «Святая святых» І. Друцэ, «Характары» В. Шукшына, «Закон вечнасці» Н. Думбадзе, «Эшалон» М. Рошчына хвалявалі, краналі, выклікалі суперажыванне, прысвойвалі сабе рысы, уласцівыя і зразумелыя беларускаму гледачу.

Не, не адмаўляюся ў гэтых спектаклях псіхалагізм. Работы акцёраў Г. Гарбука, В. Тарасава, Р. Кашэльнікавай, М. Захарэвіч, Л. Давідовіч, П. Кармуніна, Г. Талкачовай, Я. Кавалёвай і іншых, на мой погляд, вызначаліся менавіта вытанчаным псіхалагізмам. Але пры гэтым псіхалагізм для Раеўскага—не самамэта, а нармальная ўмова існавання прафесійнага, сур'ёзнага акцёра ў спектаклі прафесійнага, сур'ёзнага тэатра. Спектакль—гэта ж яшчэ і ідэя, і канцэпцыя, і відовішча. Спектакль, нарэшце, існуе ў пэўны час, які дыктуе і пэўную эстэтыку. Вобразнасць лепшых работ Валерыя Раеўскага, іх сцэнічная мова былі і застаюцца сучаснымі. Тут і канцэптуальнасць метафары, і сімволіка, і багаты асацыятыўны рад (а ў 70-я—80-я гады, калі мастакам затыкалі раты, гэта было асабліва каштоўным). Я цалкам згодны з думкай тэатразнаўцы Т. Гаробчанкі, якая слушна вызначыла адметную якасць мастацкіх пошукаў Раеўскага (разам з Луцэнкам): «сцвярджэнне новай сцэнічнай эстэтыкі з паглыбленнем у вобразную стыхію твора» («Гісторыя беларускага тэатра»). Праўда, у таго ж аўтара даводзіцца чытаць і такое: «...актыўныя пошукі новай формы, стылю, сцэнічных прыёмаў у радзе спектакляў адсоўвалі на другі план ідэйны і сэнсавы змест тэатральнага мастацтва (?!), што непазбежна вяло да страт у ідэалагічным, маральным, грамадскім аспектах, дасягненні ж у галіне сродкаў выразнасці часам мелі спрэчны, праблематычны характар». Вось якія перлы-абвінавачванні застаюцца ў гісторыі... А спектаклі—знікаюць. Праўда, сённяшні чытач многае з напісанага ўспрымае з папраўкай на час і на сумленнасць аўтараў...

Не ведаю, як пра маральнае, але пра «ідэалагічнае» ў творчасці Раеўскага магу сказаць. Сапраўды, у нечым рэжысёра можна папракнуць. Нясцерпны боль, максімалізм, нязгода і нежаданне мірыцца з хлуснёй, амаральнасцю жыцця ў так мякка званыя «застойныя» гады прыводзіла часам не да мастацкага аналізу з'яў, а да дэкларавання ідэй. Рэцыдывы схематызму, на які ў савецкім тэатры перахварэла шмат пастаноўшчыкаў, у В. Раеўскага заўважныя аж па сённяшні дзень (згадаем хоць бы «Надзею Путніну» ці фінал «Страсцей па Аўдзею»).

Што ж тычыцца ўласна ідэй, якія спавядаў і спавядае пастаноўшчык, то я не назваў бы іх «стратамі». Назваў бы—здабыткамі, бо спектаклі па п'есах А. Гельмана, Я. Шабана, В. Шукшына, у якіх «заўважалася зніжэнне не толькі мастацкага, але і грамадзянскага патэнцыялу», вызначаліся і смеласцю, і ўласным, хай сабе спрэчным, але важна, што ўласным, бачаннем праблем. У іх, як і ў многіх іншых спектаклях, якія я таксама лічу праходнымі і для Раеўскага, і для тэатра, выказваліся думкі, ідэі, якія супярэчылі «афіцыйнай думцы» пра рэчаіснасць. А тыя ж заўважаныя тэатрам праявы сталіншчыны ці брэжнеўшчыны ў нашым жыцці пазней набывалі асэнсаванне на больш высокім мастацкім узроўні,—такая дыялектыка развіцця тэатра і творчай асобы ў грамадстве, дзе мастацтва заганялася ў межы афіцыйных установак, дзе свабода творчасці і думкі дэкларавалася толькі на паперы.

А з Раеўскім можна спрачацца. Часам яго і сапраўды цяжка зразумець. Для мяне, напрыклад, няпростая загадка, чаму ён так рэдка ставіць класіку. Губляецца перад аўтарытэтамі вялікіх драматургаў? Баіцца ісці на класіку з сённяшняй трупай купалаўцаў, за прафесійныя плюсы і мінусы якой ён таксама нясе адказнасць? А была ж цудоўная пастаноўка Брэхта, быў неадназначны Гогаль, была вельмі цікавая і ёмістая канцэпцыя шэкспіраўскай «Буры»...

Здаецца, «феномен Раеўскага» яшчэ зусім нядаўна разгадаць было няцяжка. Але вось новы час, новыя ідэі. Наш тэатр на раздарожжы. Які шлях абярэ Купалаўскі тэатр? Як адрэагуе ён на працэсы агульнакультурнага адраджэння народа, чые памкненні, чый характар ён мусіць ўвасабляць? Адказ на гэтыя няпростыя пытанні шмат у чым залежыць ад мастацкага кіраўніка першага беларускага тэатра. Ён і дапаможа нам зразумець «феномен Раеўскага», чалавека, рэжысёра, які сустрэў свой першы, пяцідзесяцігадовы юбілей.

**Вячаслаў РАКІЦКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

●

*Беларускаму народнаму фронту за перабудову «Адраджэнне» ў дзень з'езда.*

Беларускі народны фронт —
Сын турботы людской і надзеі,
Ты глыбока кідаеш зонд
Адраджэння святой ідэі:

Кожнаму спрыяць у сяўбе,
Каб надзея ў сэрцы рунела,
Каб свой род,
Свой народ,
Сябе
Называў кожны існы смела.

Каб Пагоня наўскапыта
У працягласць вякоў ляцела,
Каб нікчэмнасць і свалата
Лютым гневам марна люцела.

Каб па-новаму днець пачало
У айчынным нашым абсягу,
Каб чало
Ацяніла святло
Бел-чырвона-белага сцягу.

Не адступіш у барацьбе,
Як бы трутна вораг ні сыкаў,
Бо на правым флангу ў цябе
Пазняк,
Адамовіч,
Быкаў.

Я вітаю
Твой Першы з'езд
У літоўска-крывіцкай Вільні.
З годных местаў
Твой склаўся змест,
Бо не выправілі правільні,

Што хацелі на свой капыл
Крывіча абчасаць і знеміць,
Паабтрэсшы заезджы пыл,
Беларус мусіць жыць і кеміць!

О, Літоўскі Народзе,
Здавён
Поруч нашы харугвы і пікі.
Нашу крэўнасць не возьме
скон —
Асвяціў яе Вітаўт Вялікі!

Зніч нязломнасці не патух.
Векавечаць падмурак трывалы
Каліноўскага зорны дух,
Цень Скарыны,
Адчай Купалы...

**Уладзімір КОНАН**

# ДЗЕВЯЦЬ ТЭЗІСАЎ

## Спроба філасофскага абгрунтавання руху «Адраджэнне»

**1. Носьбіт улады—дзяржава ёсць, паводле слоў У. І. Леніна, «машына для падтрымання панавання аднаго класа над другім», а гэта значыць, такая дзяржава сведчыць пра недасканаласць чалавека і грамадства. Сэнс гісторыі—у пераадоленні адвечнага зла, а яе мэта—стварэнне гарманічнай агульначалавечай супольнасці на ўсіх узроўнях грамадства—ад сям'і да міжнацыянальных адносін. Ідэал будучыні—не толькі хрысціянскі, але і камуністычны—грамадства без гвалту і падаўлення, гарманічная супольнасць, якая грунтуецца на маральнай самарэгуляцыі грамадства.**

2. Як і ўсякая сацыяльная карпарацыя, дзяржава аб'ектыўна імкнецца да аўтаноміі і абсалютызацыі, да выхаду ў становішча «над грамадствам». У выніку гэтага ўзнікае супярэчнасць паміж дзяржавай і народам, які яе стварыў. Дзяржаўная сіла ад пачатку заклікалася для гарантыі стабільнасці і творчай дзейнасці людзей. Прыпомнім легендарнае паданне аб прызванні «варагаў» на Русь: «Зямля наша багатая і шчодрая, але няма ў ёй парадку («народу»)...» Аднак з цягам часу сцвярджаўся такі «парадак», які прыпыняў або нават разбураў творча-духоўныя сілы грамадства. Вось чаму на ўсіх этапах гісторыі інтуіцыя штурхала народы да стварэння такіх інстытутаў, якія маглі б гарантаваць хоць бы гістарычна недасканалае народнае саманіраванне, абмежаваць дзяржаўную ўладу дакладна вызначанымі законам функцыямі. Напомнім пра народныя сходы ў антычнай Грэцыі, народных трыбунаў у Рыме, веча ў Полацку, Ноўгарадзе ды іншых сярэдневяковых княствах, сеймы ў Рэчы Паспалітай, урэшце, пра Земскія саборы дапятроўскай Расіі.

**3. Татара-мангольскае іга не толькі разбурала культуру Русі, яно мела больш фатальныя вынікі для Маскоўскай дзяржавы, а пазней Расійскай імперыі. Гэта—адна з прычын шматвяковага трагічнага разрыву паміж уладай і народам. Царскае самадзяржаўе Іван Грозны сцвярджаў варварскай вайной супраць уласнага народа, і сімвалам гэтага зняволення дурной «самасці» дзяржавы стала апрычніна, а пазней, у пасляпятроўскай Расіі—бюракратычны апарат, які бачыў у народзе не самамэту і гістарычную творчую сілу, а толькі крыніцу дзяржаўных даходаў і ваеннай службы.**

4. Падаўленне чалавечай асабовасці дзяржаўна-бюракратычнай машынай фатальна вядзе за сабой непрызнанне нацыянальнага самавызначэння, бо нацыя—гэта ёсць народ, сацыяльна і духоўна арганізаваны ў спецыфічную творча-гістарычную індывідуальнасць. Няўдача Рэчы Паспалітай XVII—XVIII стст. як саслоўна-феадальнай рэспублікі тлумачыцца перш за ўсё тым, што ў структурах яе ўлады недастаткова развіліся такія грамадска-палітычныя механізмы, якія б гарантавалі цэласнасць ды хаця б адноснае самавыяўленне народаў, якія тады афармляліся ў нацыянальныя індывідуальнасці. Падаўленне культурна-нацыянальных рухаў—небяспечны і дэструктыўны працэс не толькі для нацый прыгнечаных, але і для тых нацый, дзяржаўнасць якіх прыгнятае іншыя народы. Бо ў гэтай тэндэнцыі да экстэнсіўна-каланізатарскага пашырэння распыляюцца сацыяльна-эканамічныя і духоўна-творчыя сілы пануючых нацый, яны не засяроджваюцца на сваіх унутраных нацыянальных каштоўнасцях. Зусім невыпадкова, што ў кульмінацыйныя моманты гістарычнай драмы аб'ядноўваюцца інтэлектуальныя сілы пануючага і прыгнечаных народаў. Напомнім пра паўстанне дзекабрыстаў у 1825 г., польска-беларуска-літоўскае паўстанне 1863 года, урэшце—Лютаўскую і Кастрычніцкую рэвалюцыі 1917 года.

**5. Рускі філосаф М. Бярдзяеў пісаў, што сапраўдным парламентам у царскай Расіі былі не саслоўныя прадстаўніцтвы і нават не Дзяржаўная Дума, а руская літаратура. Дапоўнім, што беларуская і літоўская літаратуры ў пачатку нашага стагоддзя былі не толькі своеасаблівымі «парламентамі» сваіх народаў, але і той духоўнай асновай, на якой ствараўся народны рух за адраджэнне нацыі і грамадства. Бясспрэчна, напрыклад, што газета «Наша Ніва» стала ў беларусаў інтэлектуальным ядром гэтага руху. Агульнавядомая ісціна: масавай сацыяльнай сілай рэвалюцый 1917 года былі рабочы клас і сялянства. Аднак агульны народны фронт рэвалюцыйнай барацьбы падрыхтавала дэмакратычная літаратура і публіцыстыка, іх носьбіты—народнікі, сацыял-дэмакраты, бальшавікі.**

6. Шматвяковы трагічны разрыў паміж народам і ўладай прывёў да распаду Расійскую імперыю, на яе развалінах адраджаліся жыццяздольныя народы і нацыі. Стваралася федэратыўная дзяржава новага тыпу—СССР, мэта якой заключалася ў тым, каб, па-першае, пакончыць з эксплуатацыяй і, па-другое, гарантаваць суверэнітэт, свабоднае развіццё ўсіх нацый і народаў СССР. Пры ўсёй непаслядоўнасці новай палітыкі ў эканоміцы, сацыяльнай і культурнай сферах у 20-я гады гэтая гістарычная мэта ўсё ж дала вялікі плён. Пра гэта сведчыць, напрыклад, палітыка беларусізацыі ў БССР. Органамі масавага ўдзелу народа ў палітычным і сацыяльным кіраванні дзяржавай сталі Саветы, а гарантам народаўладдзя і органам народнага кантролю за ўладай станавілася Камуністычная партыя. Праўда, калі дэмакратыя і галоснасць падмяняліся адміністраваннем і рэпрэсіямі, то месцамі наступаў застой і бюракратызацыя новых форм улады; але ва ўмовах дэмакратыі гэтыя негатыўныя тэндэнцыі пераадольваліся.

**7. Сталінская дыктатура пры ўсёй яе неадназначнасці была контррэвалюцыйным пераваротам, ён каштаваў нашым народам невядомых ранейшай гісторыі ахвяр, суправаджаўся катастрафічным паніжэннем эканамічных, культурных і духоўна-маральных магчымасцей грамадства. Адбылася татальная адчужанасць улады ад народа, уся сістэма эканамічнага і палітычнага кіравання з усімі сацыяльнымі групамі і класамі грамадства аказалася пад рэпрэсіўным кантролем органаў дзяржаўнай бяспекі.**

**Непаслядоўная, кампрамісная палітыка дэсталінізацыі пасля XX з'езда прывяла толькі да лакальных і кароткатэрміновых поспехаў, бо не была забяспечана глабальнай дэмакратызацыяй і галоснасцю. Так званы «застойны» брэжнеўскі перыяд прывёў краіну на грань сацыяльна-эканамічнага і духоўнага крызісу.**

8. Сучасная палітыка дэмакратызацыі, галоснасці, сацыяльна-эканамічнага і духоўнага адраджэння грамадства можа прынесці плён толькі пры ўмове пераадолення існуючай каманднна-бюракратычнай сістэмы, якая доўгі час абапіралася не на дэмакратычныя і прававыя механізмы рэгулявання сацыяльных і міжнацыянальных адносін, а на забароны, падаўленні і рэпрэсіі.

Існуе афіцыйная думка, паводле якой адраджэнне гуманнага сацыялізму адбудзецца ў рамках ранейшых грамадска-палітычных інстытутаў, якія, дарэчы, канчаткова сфарміраваліся ў перыяд сталінскай дыктатуры. Але дзе тыя творчыя крыніцы, якія б уліві ў гэтыя інстытуты новыя сілы? Такой крыніцай становяцца свядомыя, інтэлектуальныя сілы працоўнага народа, аб'яднаныя ў народныя рухі за адраджэнне. Вопыт работы Першага Усесаюзнага з'езда народных дэпутатаў паказаў, што без гэтага руху не адбудзецца дэмакратычнага абнаўлення вярхоўных і мясцовых органаў улады.

**9. Прыкладна сто гадоў таму назад рускі філосаф-патрыёт У. Салаўёў апублікаваў фундаментальнае даследаванне «Национальный вопрос в России». Яно пачынаецца словамі: «Национальный вопрос для многих народов есть вопрос о их существовании». Сучасным рускім патрыётам варта было б прыслухацца да гэтых слоў. Дэмакратычнае абнаўленне і эканамічны дабрабыт нашай шматнацыянальнай дзяржавы немагчымы без гарантыі суверэнітэту ўсіх яго народаў. Вось чаму ўсе грамадскія рухі за перабудову і адраджэнне, дзейнічаючы ў рамках сваіх нацыянальных рэспублік, робяць агульную справу — забяспечваюць паскораную рэалізацыю сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і духоўнага абнаўлення грамадства на аснове дэмакратычнага права і гуманнай маралі.**

# Права «людзьмі звацца»...

З даклада Зянона ПАЗНЯКА.

(...) Рух Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне» сёння з'яўляецца грамадскай палітычнай рэальнасцю. У руху ўдзельнічаюць тысячы людзей — грамадзян рэспублікі. (...) Асноўныя мэты і задачы фронту засведчаны намі не раз. Мы за такую дзяржаву, у якой свабодны народ адчуваў бы сябе гаспадаром сваёй зямлі і ўласнага лёсу. Мы за такое грамадства, у якім не марнуецца чалавечая праца, не нішчыцца народная зямля, культура і мова, дзе свабода сумлення, дзе дзеці шануюць бацькоў, а маткі любяць сваіх дзяцей, мы за грамадства, якое гарантуе будучыню сваім грамадзянам.

БНФ адрозніваецца ад аналагічных рухаў прыбалтыйскіх краін тым, што нацыянальная кансалідацыя беларусаў адбываецца на аснове палітычных і дэмакратычных патрабаванняў. У Прыбалтыцы наадварот: нацыянальная кансалідацыя з'яўляецца аб'ектыўным мацуючым фактарам руху. У грамадстве няма больш моцнага кансалідацыйнага пачатку, чым нацыянальная свядомасць. Таму рухі ў Прыбалтыцы адразу сталі масавымі, усенароднымі, а ў Беларусі рух развіваецца спакваля, разам з ростам нацыянальнае свядомасці, бо палітычнае аб'яднанне — вельмі зыбкая, няўстойлівая аснова. Нацыянальная ж культурная свядомасць — гэта стваральная і творчая сіла. І заўсёды з рухам за самавызначэнне выяўляюцца імкненні да салідарнасці з іншымі народамі, якіх яднаюць агульныя варункі і лёс. Гісторыя і свабода яднаюць нас мацней, чым любая ідэалагічная дактрына. Мы за свабоду нацый і народаў, забеспячэнне прадстаўнікам усіх нацый права на захаванне сваёй мовы і культуры, права на сацыяльную справядлівасць, аўтаномію асобы.

□

З прамовы Юрыя ХАДЫКІ.

Думка, якая часта гучыць сёння, што трэба спачатку накарміць народ, а потым перабудова пойдзе як па масле, няправільная, калі не сказаць — правакацыйная. Навошта перабудова, калі народ будзе сыты? Сытае бруха да навукі глуха...

Наша перабудова не атрымае перамогі ў плане эканамічным і палітычным, калі мы не даб'ёмся духоўнага адраджэння нашага народа, калі мы не пераможам апатыю, абыякавасць, хцівасць, хлусню, нядобрасумленнасць, карыслівасць, халуйства, п'янства, разбэшчанасць, пакорлівасць. Усе гэтыя грахі, як дзесяць караў егіпецкіх, — узнагарода нам за тое, што забыў народ наш мудрасць, вядомую і тры тысячы гадоў таму назад: не хлебам адзіным жыве чалавек.

(...) Калі запытаць, што такое духоўнасць у грамадстве, то ў двух словах можна адказаць так: гэта справядлівасць і вера. Справядлівая ўзнагарода за працу, роўныя магчымасці ў галіне аховы здароўя і адпачынку, адукацыі і выхавання, знішчэнне незаконных прывілеяў—гэта перадумова эканамічнай перабудовы і нармалізацыі сацыяльных адносін.

□

З прамовы Яна МАТУСЕВІЧА (настаяцель каталіцкага касцёла ў вёсцы Баруны Ашмянскага раёна).

(...) Гісторыя нашага народа склалася вельмі трагічна. Цяжкасці, якія беларусы сустракалі на шляху да свайго нацыянальнага адраджэння, толькі цяпер робяцца поўнасцю вядомымі. Разам з вынішчэннем народа ішло змаганне за душу беларусаў, спробы адабрання ад нас нашай нацыянальнай годнасці, нашай гісторыі, культуры, мовы, адмаўленне нам у праве, як сказаў наш вялікі пясняр Янка Купала, «людзьмі звацца».

Сумна тое, што і сёння, пры змененых палітычных абставінах, каталіцкая царква ў Беларусі з'яўляецца маленькай нацыянальна чужой рэлігійнай установай, якая не мае ніякага значэння ў беларускім нацыянальным жыцці.

□

З прамовы народнага дэпутата СССР Сяргея ГАБРУСЕВА (г. Магілёў).

(...) Два пачуцці, я думаю, змагаюцца ў душы кожнага з нас. Пачуццё гонару, што ўрэшце наш народ сабраўся дзеля таго, каб, аб'яднаўшыся, арганізаваць сур'ёзную палітычную працу ў сябе на Бацькаўшчыне. Працу па адраджэнні нашага народа, нашай культуры і сцвярджэнні прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці. Гэта з аднаго боку. А з другога — горыч. Бо мы з вамі сабраліся не на сваёй зямлі, не ў Мінску ці ў якім іншым горадзе нашай рэспублікі. (...).

З нашага боку (і гэта чырвонай ніткай праходзіць у выступленнях многіх дэлегатаў) была вытрымка, палітычная спеласць, мудрасць у служэнні тым задачам і ідэалам, якія вызначыў для сябе Беларускі народны фронт. І менавіта таму я ўсіх вас заклікаю, каб кожны дэлегат быў ... на працы і дома прыкладам і ўзорам для наследавання, каб нават ценю ніхто не кінуў на наш сур'ёзны, чысты і вялікі рух. (...) Задача наша—зрабіць так, каб кожны чалавек у нашай рэспубліцы жыў і дыхаў чыстым, свежым і вольным паветрам.

# ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

## СА ЗВАРОТУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭННЕ»

(...) 24—25 чэрвеня 1989 года наш Устаноўчы з'езд афіцыйна аформіў стварэнне БНФ за перабудову «Адраджэнне».

БНФ — гэта масавы грамадска-палітычны рух. Ён ставіць сваёй мэтай пераўтварэнне грамадства і аднаўленне самабытнасці беларускай нацыі на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, стварэння ўмоў свабоднага паўнакроўнага развіцця культуры як карэннага насельніцтва, так і нацыянальных меншасцяў Беларусі.

БНФ будзе дзейнічаць у рамках Канстытуцыі БССР і ў адпаведнасці з прынятымі з'ездам праграмай і статутам. БНФ закліканы абараняць інтарэсы працоўных, будзіць людзей да сацыяльнай актыўнасці, развіваць іх палітычную, прававую культуру і нацыянальную свядомасць, забяспечыць незваротнасць перабудовы ў БССР.

Устаноўчы з'езд адбыўся ў сталіцы братняй Літвы, у дарагім беларускаму сэрцу горадзе Вільні. Законна ўзнікае пытанне: чаму ж не ў Мінску? Гэта не наша віна. Гэта віна афіцыйных кіраўнічых органаў рэспублікі, якія не хочуць нас чуць і бачыць. Гэта не выклік, гэта—змушанае выйсце. (...) Сілы застою чакалі, што мы пойдзем па шляху канфрантацыі. Але мы не шукаем канфрантацыі. Нам патрэбна спакойная і канструктыўная праца дзеля дабра Бацькаўшчыны. Канфрантацыю выбіраюць тыя, хто ў сапраўдным народаўладдзі бачыць пагрозу для сябе.

БНФ «Адраджэнне» заклікае наш мудры і мужны, разважлівы і гаспадарны народ далучыцца да руху за перабудову, пайсці па светлым шляху адраджэння ў дэмакратычную будучыню, у вечнае і годнае жыццё на сваёй зямлі. Мы не маем больш маральнага права трываць засілле бяздушнага і хцівага да ўлады чынавенства, ведамстваў, якім абыякавы лёс зямлі, лёс народа. Гэта праз іх мы маем Чарнобыль з усімі яго жахлівымі наступствамі. Адзіны шанц, каб выжыць і мець перспектыву, — гэта перадача ўсёй паўнаты ўлады народу.

Неўзабаве будуць выбары ў Вярхоўны Савет рэспублікі і мясцовыя Саветы. Наша бліжэйшая задача—зрабіць усё, каб у Саветах аказаліся людзі, вартыя высокай годнасці народных выбраннікаў. Памятайце і пра галоўную нашую мэту — стварыць дэмакратычнае грамадства і моцную эканоміку, стаць народам, які будзе пачувацца вольным і раўнапраўным у агульначалавечай сям'і.

25 чэрвеня 1989 г., г. Вільнюс.

Старонкі ўспамінаў

Заір АЗГУР,
народны мастак СССР

# Свеціцца душа чалавека...

Дазвольце, калі ласка, крыху пахваліцца. Дарэчы, якая ж гэта пахвальба, калі чалавек проста ўспомніць артыстаў драматычнай сцэны, якія ўразілі яго ўяўленне!.. Да гэтага часу памятаю братоў Адэльгейм у незабыўным іх дуэце ў спектаклі «Урыэль Акоста». Гэтыя скрыжаваныя позіркі ў паядынку думкі і волі паміж Урыэлем Акостай і Бей Акібай, гэтая рулада голасу, калі гаворка героя адрасуецца ўжо не слыху і не розуму, а самой душы свайго фанатычнага апанента; гэты велічны ў горы, палкі парыў насустрач пагібелі за ўласнае перакананне... Не, не бяруся апісваць выступленне перад тагачасным віцебскім гледачом Рафаіла і Роберта Адэльгеймаў. Адно толькі тое, што і дагэтуль памятаю іх галасы, позіркі, пластыку,—пра многае гаворыць. А хіба можна забыць армянскага трагіка Ваграма Папазяна ў «Атэла», калі гэты раз'юшаны ад рэўнасці маўр раптам пантэрай ускоквае і, павіснуўшы на шыі Дэздэмоны, пачынае яе душыць, не ў сілах расціснуць рукі. У вачах ягоных — жах, а рукі сцэпліваюцца ўсё мацней на горле любімай жанчыны. Відавочна, так тыгр, адчуўшы смак крыві на языку, ужо не можа выпусціць ахвяру, нават калі яна яму і не вельмі патрэбна... Іншы раз перада мною ўзнікаюць дзве незвычайныя феі сцэнічных дыялогаў, бачыць і чуць якіх было вялікай асалодай, настолькі жыццёвыя яны былі ў кожнай інтанацыі і пластычна пераканаўчыя ў кожным штрыху: гэта — славутая М. Блюменталь-Тамарына з Малога і А. Карчагіна-Александроўская з Александрынкі... Мне помніцца славутыя трагікі нашага часу грузін Акакій Харава і рускі Мікалай Сіманаў. Мяне ўзрушвалі ў мхатаўскіх спектаклях Ала Тарасава і Мікалай Хмялёў...

Адным словам, пабачыў я сапраўдных артыстаў, здольных узрушваць сэрцы і самых непасрэдных гледачоў, і дастаткова дасведчаных тэатралаў. Мяне заўсёды прыводзіла ў захапленне майстэрства нашых беларускіх акцёраў, якія літаральна з першых дзён нараджэння нацыянальнага прафесійнага тэатра выступалі на ўзроўні лепшых узораў сучаснага артыстычнага мастацтва. У першую чаргу назаву тут, вядома, Уладзіміра Крыловіча і Кацярыну Міронаву. Вось сапраўды першыя карыфеі на беларускіх падмостках савецкага часу! Пра іх я дзяліўся сваімі ўражаннямі ў папярэдніх сваіх кнігах. Расказваў і пра талент Лідзіі Ржэцкай і Уладзіслава Галубка, Паўла Малчанава і Леаніда Рахленкі, Уладзіміра Дзядзюшкі і і Генрыха Грыгоніса, Стэфаніі Станюты і Раісы Кашэльнікавай, пра рэжысёраў Мікалая Міцкевіча і Льва Літвінава...

Сёння паведу гаворку пра вельмі своеасаблівага і ўражальнага акцёра купалаўскай сцэны — пра Міхаіла Зорава. Ужо адзін факт яго творчасці ў садружнасці з Фларыянам Ждановічам, Барысам Платонавым, Вольгай Галінай, Уладзімірам Уладамірскім, Верай Пола, Ірынай Ждановіч, Эдуардам Шапко, Глебам Глебавым, Сцяпанам Бірылам — паказчык інтэрнацыянальнага імкнення таленавітых людзей у стварэнні беларускага тэатра, які заваяваў славу і ўсеагульнае прызнанне ўжо на пачатку сваёй дзейнасці.

У БДТ-І (цяпер Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) Міхаіл Абрамавіч Зораў паступіў у 1926 годзе. Тэатр ужо не меў патрэбы проста ў здольных маладых акцёрах, яму патрэбны былі яркія індывідуальнасці, ён ужо калекцыяніраваў таленты з асаблівымі рысамі і непаўторным творчым абліччам. Міша Штокланд (такое сапраўднае прозвішча Зорава) прыглянуўся тагачасным кіраўнікам артыстычнай трупы на чале з Еўсцігнеем Міровічам унутранай сабранасцю і ўзрыўной сілай тэмпераменту.

Памятаю і ўласнае ўражанне аб ім.

Міхаіл Абрамавіч спачатку выглядаў перад вамі як бы ветлівым субяседнікам, які ўдумліва ацэньвае вас, гатовы адказаць на ваша любое пытанне. Потым ён раптам захапляўся сказаным і, спакваля разгараючыся, вёў размову пераканаўча, дарагую для яго, важную. Адкідаліся ветлівыя ноткі, наперад выступала страсць. Вас пранізваў палымяны позірк дапытлівых вачэй, якія, здавалася, усё бачыць, пакуль вусны вымаўляюць нешта самае галоўнае... Бадай, пра яго можна было сказаць тое, што гаварылі пра нейкага вялікага тагачаснага артыста (здаецца, пра І. Пяўцова): ён нібы знемагаў пад цяжарам сваёй творчай напоўненасці. Варта было крыху падштурхнуць яго — і ўсё праз край: запальчывасць, аргументы, довады, парыў, іронія, саркастычны смех, прытоенае ў грудзях рыданне, клекатанне ў грудзях...

Часам я думаў пра яго: чаму б М. Зораву не выступаць на яўрэйскай сцэне? Дарэчы, тады трэба было б спытаць, напрыклад, чаму ўкраінец Г. Глебаў уліўся ў беларускі тэатр, чаму яўрэй Б. Янпольскі стаў яго партнёрам, чаму рускі Мікалай Звездачотаў стаў вядучым артыстам у коласаўскай трупе, чаму паляк Здзіслаў Стома аддаў свой талент БДТ-І і г. д. А перагарніце мхатаўскі летапіс: У. Неміровіч-Данчанка, В. Кніпер, А. Арцём, Я. Вахтангаў, К. Марджанаў, У. Мчадзелаў, В. Качалаў (Шверубовіч), Л. Сулержыцкі, В. Гзоўская. І. Сац... *Армяне і грузіны, палякі і ўкраінцы, яўрэі і літоўцы...* Сапраўды, гэта вельмі супярэчлівая з'ява — акцёрскае майстэрства. Яно нібыта абяцае самы вялікі поспех выхадцу са свайго народа, а на самай справе ва ўсе часы і ва ўсіх народаў акцёрская брацця фарміравалася і фарміруецца з прадстаўнікоў розных нацый. Чым растлумачыць гэты феномен, не ведаю.

Не буду старацца зрабіць гэта на газетных старонках. Адзначу толькі той факт, што М. Зораў, *калі і напомніў пра* ўласнае нацыянальнае паходжанне, дык толькі аднойчы. У спектаклі «Бацькаўшчына» па рамане К. Чорнага ён выконваў ролю Евеля Цывіна. Перш за ўсё, Міхаіл Абрамавіч надзіва тонка падтрымліваў ансамбль акцёраў, які ў «Бацькаўшчыне» быў надзвычай гарманічным. Кожнага вызначала вялікая псіхалагічная праўда паводзін — праўда псіхалагічных матываў у рашэннях, у прамовах, у адносінах да ўсяго, што адбываецца. Тон задаваў Уладзімір Уладамірскі ў ролі Леапольда Гушкі. У жыццёвай верагоднасці гэтага беларускага мужыка, выхадца з сілезскіх ткачоў, адчувалася нейкая агульначалавечая думка аб годнасці асобы. Яго выпакутаваны покліч скінуць цара ў краіне ўзвышаўся да пафасу свабодалюбівай думкі наогул: прыгнечанне прыніжае не толькі кожнага прыгнечанага, яно робіць пачварным само грамадства людзей, людскі род. Быў у Леапольдзе Гушку нейкі асаблівы рытм у парываннях душы, рытм у тых усплёсках прамоў і ў тых па-мужыцку шырокіх жэстах, якія так вылучалі гэты мастацкі вобраз. Нездарма К. Чорны з захапленнем заўсёды паціскаў руку У. Уладамірскаму.

Яго вельмі радаваў і М. Зораў. У Евелі Цывіне адчувалася нацыянальная прыналежнасць. Быў нейкі налёт нават патрыярхальнага на гэтай манеры размаўляць, як бы спярша прыцэльваюцца да субяседніка, гэтая прыроджаная звычка да насцярожанасці, з якой адгадваеш добразычлівы характар. Была знойдзена ў вобразе і пластычная завершанасць. Жэст скупы, але дакладны, апраўданы, прыкметны.

Акцёру, як мне здаецца і як падказвае мне мой доўгі вопыт і дружба з тэатрам, вельмі дапамагае ў творчасці дзіцячая, я сказаў бы, даверлівасць і непасрэднасць. Даверлівым і непасрэдным быў сам М. Зораў у штодзённым жыцці. «Вы яшчэ не бачылі ў нас цікавы і павучальны спектакль «Як яе завуць?»? Пагляд́зіце абавязкова. Абрагочацеся і потым задумаецеся...», — гаварыў ён мне на хаду, спяшаючыся некуды на рэпетыцыю. Захапленне! І — гордасць за свой тэатр.

Пасля абмену поціскам рук ён аднойчы скрывіўся ад болю і патрос сваёй пяцярнёй: «Ой, я ведаў, што ў скульптара павінна быць моцная далонь, але — злітуйцеся! — не да такой жа меры...»

Неяк аднойчы бачу яго на прыступках параднага ўвахода ў Ленінскую бібліятэку з кнігай пад пахай. Ён махае мне рукой, узнімае том над галавой і крычыць: «Шапенгаўэр... Артур Шапенгаўэр... Паслухайце, гэта ж жудасна: ён сцвярджае, нібыта жыццядзейнасць — гэта невычэрпная крыніца зла... І, аказваецца, мы, жывучы, толькі тое і робім, што прыносім адзін аднаму гора і пакуты... — у Міхаіла Абрамавіча пунсавеюць шчокі і акругляюцца вочы, як у школьніка, які адкрывае для сябе, што «два ў два — чатыры». — Які змрочны песіміст! Га? Вось я разгарну на гэтай старонцы. Чытайце самі...»

Я ўзяў у яго другі том са збору твораў Шапенгаўэра, выдадзенага ў Расіі на пачатку нашага стагоддзя, і прачытаў: «Сучаснае падобна маленькай цёмнай хмарцы, якую вецер гоніць над азоранай сонцам раўнінай: перад ёю і за ёю ўсё светла, — толькі яна сама пастаянна адкідае ад сябе цень. Сучаснае таму ніколі не задавальняе нас, а будучыня ненадзейная, мінулае незваротнае...»

— Не, не, Заір Ісаакавіч, гэта яшчэ не ўсё... Гляньце сюды, — зазіраючы мне цераз плячо, тыцкае пальцам на старонцы.

Чытаю: «Вечна чалавек прадастаўлены самому сабе, як ва ўсякай справе, так і ў галоўным. Дарэмна ён стварае сабе багоў для таго, каб малітвамі і ліслівасцю выпрасіць сабе ў іх тое, што можа зрабіць толькі сіла яго ўласнай волі...».

— А воля, па яго сцвярджэнні, — абвяшчае М. Зораў, — сляпая сіла нашых інстынктаў і спадзяванняў...

Цытаты я аднавіў ужо цяпер, у 1988 годзе.

А Зораў тады разразіўся маналогам аб тым, як горка ўсведамляць, што такі розум апантаны зусім сумным поглядам на чалавека. Адкуль гэтае злавес-

# УРОКІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

(Пачатак на стар. 3).

жэйшы час помнікаў Францішку Багушэвічу, Кірылу Тураўскаму, Кастусю Каліноўскаму, Васілю Вашчыле. Упэўнены, што і збудаванне ў г. Мінску помніка вялікаму славянскаму *гуманісту і асветніку* Францыску Скарыне да 500-годдзя з дня яго нараджэння дапаможа ўнесці ў наша асяроддзе значны, так нам патрэбны ідэйна-выхаваўчы акцэнт.

Зразумела, маштабная задача паўнацэннага насычэння жыцця творамі сапраўднага мастацтва не абмяжоўваецца толькі манументальнай пластыкай.

Больш чым за сорак пасляваенных гадоў пытанням захавання архітэктурнай спадчыны рэспублікі практычна не ўдзялялася ўвагі. Наадварот, часам назіраліся рэзка адмоўныя адносіны. З гэтай прычыны многія каштоўнейшыя помнікі гісторыі і культуры проста перасталі існаваць. Значная шкода нанесена гістарычна склаўшамуся асяроддзю старажытных беларускіх цэнтраў, і ў першую чаргу Мінску, Нясвіжу, Полацку, Віцебску, Пінску, Мсціславу. Сотні іншых архітэктурных і ландшафтных помнікаў *патрабуюць* тэрміновай рэстаўрацыі альбо хаця б кансервацыі. Гавару пра гэта, каб падкрэсліць усю складанасць і неадназначнасць сённяшняй сітуацыі.

Безумоўна, пераадолець адразу негатыўныя тэндэнцыі, якія складаліся на працягу многіх гадоў, цяжка. Тым не менш, аб'ектыўна ацэньваючы свае магчымасці, лічым, што мы можам павялічыць аб'ём работ па рэстаўрацыі помнікаў у параўнанні з 1985 г. у сем разоў і давесці яго ў 1990 годзе да 10 мільёнаў рублёў. Сёлета мы плануем асвоіць восем мільёнаў рублёў.

Зараз асаблівую ўвагу мы аддаём канцэнтрацыі сіл на асноўных аб'ектах. У пералік іх уключаны музей народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах, замкі ў Міры, Лідзе, Нясвіжы, Успенскі касцёл у Мсціславе, архітэктурныя помнікі Полацка і шэраг іншых. Акрамя культурна-гістарычнага, эстэтычнага аспекту захавання і рэстаўрацыі помнікаў культуры, гэта работа яшчэ з'яўляецца і важным рэзервам пашырэння матэрыяльнай базы культуры. Мы плануем завяршыць рэстаўрацыю і прыстасаваць пад установы культуры больш за 20 архітэктурных помнікаў, такіх, напрыклад, як былы Манастырскі комплекс у вёсцы Гальшаны, будынкі касцёлаў у Магілёве, Гродне, рад іншых каштоўных архітэктурных помнікаў.

У перспектыве мяркуем прыступіць да рэстаўрацыі больш буйных комплексаў, такіх, як палацы ў Косаве і Ружанах, манастыры ў Пустынках і Юровічах, завяршыць работы на палаца-паркавым комплексе ў г. п. Мір.

**Некалькі слоў пра яшчэ адну з важнейшых форм захавання нашай спадчыны — я маю на ўвазе музейную справу. Правільна было заўважана, што музеі — гэта свайго роду візітная картка, якая паведамляе аб стане здароў'я культуры і эканомікі любой нацыі.**

**На жаль, становішча ў музейнай справе рэспублікі, асабліва з канца сямідзесятых гадоў, склалася надзвычай цяжкае.**

**Нельга не пагадзіцца з думкай, што, маючы багацейшы фондавы і навуковы патэнцыял, экспазіцыі нашых музеяў вельмі схематычна і неглыбока паказваюць гісторыю беларускай культуры. Мы не маем спецыяльных, шырока разгорнутых экспазіцый па гісторыі беларускай літаратуры, выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, гісторыі тэатра. На пальцах адной рукі можна пералічыць музеі этнаграфічныя, археалагічныя, мемарыяльныя, мастацкія.**

**Сённяшняе становішча ў нашай музейнай справе можна характарызаваць такім параўнаннем: у рэспубліцы працуе каля сотні музеяў, але калі ў нас адзін музей прыходзіцца аж на 125,0 тыс. жыхароў, то ў Літве — на 22,0, у Эстоніі — на 35,0.**

**Толькі колькасць адзінак асноўнага фонду ў запасніках музеяў дасягнула 1,6 мільёна, а ў экспазіцыях наведвальнікі бачаць не больш дзесяці-дванаццаці працэнтаў гэтай колькасці.**

**Незбалансаванасць тэматыкі музейнай сеткі прывяла да таго, што ў рэспубліцы больш за палову ўсіх музеяў — краязнаўчыя. Усе гэтыя пытанні не так даўно разглядаліся на калегіі міністэрства, дзе на суд спецыялістаў практычна ўпершыню была вынесена канцэпцыя развіцця музейнай справы ў рэспубліцы. У выніку дэталёвага сур'ёзнага разгляду ўсіх прапаноў і ідэй, на наш погляд, выкрышталізаваўся аб'ёмны, грунтоўны перспектыўны план дзеянняў, які арганічна ўвайшоў у праграму «Спадчына».**

**У адпаведнасці з закладзенымі ў праграму «Спадчына» прапановамі агульны кошт рэстаўрацыі, будаўніцтва і стварэння экспазіцый музеяў да 2000 года складзе каля 45 мільёнаў рублёў.**

Усім зразумела, што для адраджэння культуры нацыі патрэбна ўсеабдымная праграма паляпшэння матэрыяльнай базы, і яна сёння набывае даволі канкрэтныя рысы, дае магчымасць спадзявацца на лепшае. Дазволю сабе на лічбах паказаць, што дае зараз для Беларусі нараджэнне новага паняцця — «сацыяльна моцная» палітыка ў адносінах да культуры. Калі ў адзінаццатай пяцігодцы сярэднегадавы аб'ём капітальных укладанняў склаў ад 15-ці да 18-ці мільёнаў рублёў, то ў мінулым годзе толькі на будаўніцтва ўстаноў культуры дзяржавай было ўжо выдзелена 37 мільёнаў, а ў гэтым годзе каля пяцідзесяці.

Не буду пералічваць усё, што мы плануем будаваць ў бліжэйшыя пяць гадоў. Назаву толькі тое, што закладвае, на наш погляд, фундаментальную матэрыяльную базу ў рэалізацыі праграмы «Спадчына». Гэта, у першую чаргу, будынак бібліятэкі імя У. І. Леніна, комплекс аб'ектаў Беларускага мастацкага інстытута, новыя будынкі для Беларускага харэаграфічнага вучылішча

нае перакананне, быццам з кожным жыццём сплецены няшчасці і пакуты? «Азірнёмся вакол, — гаварыў запальчыва Міхаіл Абрамавіч, — бачыце, гэтыя маладыя твары ўлюбёных і летуценных людзей... Вось тая дзяўчына ў берэце, з чолкай «пад Бабанаву»... Ну, хіба абавязкова ёй суджаны пакуты? Па-мойму, па твары яе можна чытаць кінгу кранаючага прадчування шчасця...»

У такія мінуты я слухаў М. Зорава, забываючыся пра тое, што па прафесіі ён — акцёр. Чалавек неспакойнай і дапытлівай думкі перада мною. Яму не было ўласціва начотніцтва, ён да ўсяго хацеў дайсці сам, уласным розумам. І калі Міхаіл Абрамавіч сціхаў, прымаючы ўсё тую ж стрыманую ветлівасць, якая была звычайна ўласціва яму, гэтаму інтэлігентна апранутаму і інтэлігентнаму ў паводзінах чалавеку, мне хацелася спадзявацца на новую сустрэчу з ім. Успышкі раптоўных азарэнняў у чалавеку мне заўсёды імпануюць. Я разам з такім чалавекам і сам паглыбляюся ў нейкія неабходныя мне сферы чалавечага духу. Неўтаймоўнага і прагнага да ведаў аб сабе і аб свеце, узбуджанага і ненасытнага.

Такім быў М. Зораў і на сцэне. Ролі ён іграў самыя разнастайныя. Майстэрства пераўвасаблення ў вобраз было яму падуладна, відаць, па прыродзе яго мастацкага таленту. Памятаю яго Міколу Сабілу з п'есы «Перамога» Е. Міровіча— гэтага маладога, як тады было модна гаварыць, «чырвонага дырэктара» на заводзе, які ўсё яшчэ памятае сваё нядаўняе армейскае мінулае і ўдалую вольніцу ваенных паходаў. У драме «Змрок» В. Шашалевіча ў яго была роля сялянскага хлапца, які ў пошуках заработку і прыгожага жыцця яшчэ да рэвалюцыі паехаў у Амерыку, а цяпер прыбыў у родны край чалавекам, як і раней, спустошаным і бедным. У даволі праслаўленым спектаклі БДТ-1 «Мяцеж» па рамане Д. Фурманава ён выступаў у ролі камісара Фурманава, адцяняючы ў вобразе перакананую рашучасць і ясны розум рэвалюцыянера па сваёй натуры. А ў «Браняпоездзе 14-69» Ус. Іванава раптам пераўтвараўся ў белагвардзейскага капітана Незеласава, каб даць партрэт адчайна ўлюбёнага ў жыццё і асуджанага на гібель манархіста. У п'есе «Мост» Я. Рамановіча яму вельмі ўдаўся інжынер старога гарту Бабіч, гэткі рафініраваны арыстакрат духу, эстэт і гурман, вымушаны «знацца», як ён упэўнены, з нікчэмнасцю, з натоўпам крыклівых энтузіястаў, з пралетарыямі. У «Гуце» Р. Кобеца яму даручылі ролю старога майстра-шкловыдзімальшчыка Скрылева, і побач з незабыўным па каларытнасці Марозам у выкананні Уладзіміра Крыловіча ўзвышаўся гэты маляўнічы сцэнічны вобраз. У спектаклі «Вялікадушнасць» В. Галаўчынера ў яго па-мастацку адточаны вобраз Дэлаклюза. Дагэтуль я ўспамінаю прэм'еру «Платона Крэчата» А. Карнейчука на беларускіх падмостках, калі галоўную ролю ў спектаклі выконваў М. Зораў: які гэта быў цудоўны ўрач па прызванні, сапраўды дабрадзейны малады чалавек! Здавалася, што такі Платон Крэчат можа і павінен быць сярод тваіх асабістых неразлучных сяброў... І зусім іншы ўрач, які служыць турэмным доктарам, па прозвішчы Лешч («Апошнія» М. Горкага) — якая выкрутлівасць подленькай душы, якая драпежная прадбачлівасць, які цынізм у адносінах да блізкіх і далёкіх з «апошніх» Каламійцавых!..

Я назваў тыя сцэнічныя творы, якія ўзнікаюць перада мною, як толькі я пачую гэтае імя — Міхаіл Зораў. Яго ўменне рабіцца на сцэне то ліслівым і баязлівым, то насцярожаным і гатовым да атакі, то самаўпэўненым гаспадаром становішча, то рабалепным паслушнікам, то здаровым целам і духам чалавека, створаным для дастойных спраў,—гэтае акцёрскае ўменне гарманічна спалучалася з майстэрствам яго партнёраў па БДТ-1. Так, я заўсёды адгадваў тую музыку душы, якая гучала, скажам, у яго Платоне Крэчаце або ў Евелі Цывіне, і гэта мелодыя ўнутранага духоўнага жыцця ўражвала вас і асобна ад усіх, але ўсё ж вобраз, створаны М. Зоравым, ніколі не выпадаў з ансамбля. Ён умеў, што называецца, выразна «падыграць» таму ж У. Крыловічу або У. Уладамірскаму, той жа Л. Ржэцкай або К. Міронавай.

Адчуванне і разуменне тэатра як майстэрства ўзгодненай садружнасці талентаў было яму ўласціва ад прыроды. Таму ён не грэбаваў другараднымі ролямі, мог выйсці і ў «эпізодзе». Яго вабіла і рэжысура. Спачатку разам з Е. Міровічам, а пасля і самастойна ён зрабіў шэраг дастойных успамінаў гісторыі беларускай савецкай сцэны спектакляў. Назаву тут хоць бы такія: «Лён» па п'есе Е. Міровіча, «Зямля і неба» братоў Тур, «Платон Крэчат» (у ім ён, дарэчы, перадаў галоўную ролю Б. Платонаву, дублёрам якога ў далейшым стаў І. Шаціла), «Апошнія» М. Горкага, «Вочная стаўка» і «Генеральны консул» Л. Шэйніна і братоў Тур, «Кацярына Жарнасек» М. Клімковіча, «Ірынка» К. Чорнага. Яго запрашалі выкладаць майстэрства акцёра і ставіць спектаклі ў тагачасным ТРАМе; змяніў ён на пасадзе мастацкага кіраўніка ТЮГа М. Кавязіна... Жывога і дапытлівага, добразычлівага і строгага, спагадлівага і патрабавальнага, яго любілі таварышы па тэатры. З ім добра працавалася, і таму, напрыклад, горкаўскія «Апошнія» сталі ўпрыгожаннем рэпертуару купалаўцаў і лічыліся лепшым сцэнічным увасабленнем гэтай вельмі складанай драмы М. Горкага на савецкіх падмостках.

А я любіў Зорава ва ўсіх іпастасях. Безумоўна, трэба ўлічваць абстаноўку перадваеннага часу ў нашым мастацтве. Магчыма, зараз мы знайшлі б і залішняе перабольшванне ў яго спектаклях значэння так званых «станоўчых вобразаў», часам схематычна проціпастаўляемых так званым «адмоўным». Аднак гэта хутчэй залежыць ад драматургічных уласцівасцей п'есы. Як і Л. Літвінаў, ён амаль свята верыў у ідэю К. С. Станіслаўскага, які лічыў абавязкам драматычнай сцэны раскрываць жыццё чалавечага духу і прапануемых гістарычных абставін. Дух, увасоблены ў адточанай мастацкай форме. Скажу праўду, мяне захапляла тое, як ягоны Незеласаў, напрыклад, насіў афіцэрскі кіцель з пагонамі, як стараўся ўлезці ва не ўласцівы яму фрак ягоны доктар Лешч, як хаваў нервовы рух музыкальных пальцаў ад староннiх ягоны інжынер Бабіч. Я радаваўся выпраменьванню добрага і рашучага розуму ў ягоным Фурманаве і такой дабрадушнай дабрыні — у ягоным Платоне Крэчаце.

У канцы 20-х і ў пачатку 30-х гадоў сярод інтэлігенцыі асабліва горача дыскутавалася пытанне страху як рухальнай сілы ў паводзінах людзей — і ў асабістых, і ў грамадскіх. Была нават такая п'еса ў А. Афінагенава—«Страх». І ў драме «Сімфонія гневу» В. Шашалевіча закрана428 гэта пытанне. У ёй цывілізаваны кат, які абслугоўваў фашысцкую дактрыну, так тлумачыў залежнасць чалавека ад ступені яго страху: «Боль запаўняе ўсе куточкі мозгу чалавека. Боль расслабляе яго маральнае супраціўленне. Ён як бы ўпадае ў гіпнатычны транс. Ён робіцца абыякавым да ўсяго, апрача свайго стыхійнага болю! У такім стане ён можа прадаць усё на свеце: чалавецтва, рэвалюцыю, родную маці, каханую дзяўчыну, сяброў, супольнікаў...».

Мне здавалася, што М. Зораў сам у штодзённым жыцці па натуры чалавек асцярожны і прадбачлівы, лёгка ранімы. Яго захопленасць мастацтвам, тэатрам, спектаклямі, ролямі быццам перакрывалі гэта ўражанне.

Але вось выбухнула вайна. І артыст становіцца ўдзельнікам падполля ў акупіраваным фашыстамі Мінску, лічыцца сярод таварышаў адважным змагаром. Значыць, страх перад карай і асцярожнасць адступілі, замест іх праявіўся характар мужнага і свядомага чалавека. Жыццё паказала ўнутраную вернасць акцёра ідэям, якія ён выспаведваў у сваёй творчасці.

...Расказваюць, што калі паліцаі ў мінскім гета часоў вайны гналі Міхаіла Штоклянда да грузавіка з ахвярамі, беларускі артыст і рэжысёр Міхаіл Зораў на вачах сведкаў ператвараўся ў сівога чалавека. І чамусьці выразна і дакладна гаварыў... маналог Гамлета. Даведзены да адчаю цемрашальствам і варварствам цывілізаваных катаў, ён, відаць, толькі і мог вуснамі Гамлета выказаць адвечную барацьбу рашучасці і сумненняў у чалавеку, — і над брукаванай маставой Шорнай вуліцы неслася: «Быць альбо не быць? Вось у чым пытанне... вось у чым пытанне... Быць альбо не быць? Вось у чым...» Каля змрочнага грузавіка сівы Зораў заспяваў «Інтэрнацыянал»...

Наўрад ці ён успамінаў у тыя апошнія імгненні свайго жыцця пра Шапенгаўэра і яго погляды на чалавека. Яму спатрэбіўся Шэкспір. Зораў разумеў, што ўсё, што адбываецца ў Еўропе, — гэта трагедыя. Найвялікшая трагедыя з тых, што выпала на долю пакалення, да якога належаў ён, Міхаіл Штоклянд, артыст Міхаіл Зораў. І нічога тэатральнага ў ёй, адной з самых жудасных трагедый, не было. Была яна без прыхарошванняў і слоўнай мішуры — жорсткай і бесчалавечнай. Тады ў падтрымку ўзрушанага розуму — Шэкспір і яго Гамлет...

Я перакананы, што і ў самай жудаснай трагедыі ён бачыў урок гісторыі. А ўрокі гісторыі, як урокі ўзлётаў і падзенняў чалавечых натур, належыць асэнсоўваць і спасцігаць мастацтву, у прыватнасці, і тэатру. Інакш гэтыя ўрокі засвойваюцца не так глыбока.

Я нізка схіляю галаву перад памяццю гэтага выдатнага дзеяча беларускай савецкай сцэны.

# IV З'ЕЗД КНІГАЛЮБАЎ БЕЛАРУСІ

**У рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў адбыўся IV з'езд Добраахвотнага таварыства аматараў кнігі БССР. Нашай грамадскай арганізацыі споўнілася 15 гадоў, сказаў у справаздачным дакладзе рэспубліканскага праўлення яго старшыня М. І. Дзялец. Прамоўца назваў лічбы: 900 тысяч членаў, 14244 пярвічныя арганізацыі, 751 клуб кнігалюбаў, 1162 народныя кніжныя магазіны і кіёскі, 1205 школьных кааператываў «Юныя сябры кнігі».**

**У цеснай сувязі з арганізацыямі-заснавальнікамі, партыйнымі органамі арганізацыі таварыства прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні месячнікаў, тыдняў, дзён кнігі, кніжных выставак, літаратурных вечароў. Сапраўднымі святамі кнігі сталі ў Полацку Скарынаўскае «Беларусь — маё слова і песня», у Магілёве — Пушкінскае свята паэзіі і Сіманаўскія чытанні, у Навагрудку — 190-годдзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча, «Мінская кніжная вясна» і іншыя.**

**Разам з тым у шэрагу выступленняў адзначалася, што не ўсе пярвічныя, раённыя арганізацыі таварыства працуюць актыўна, плённа, мэтанакіравана. Аб неабходнасці паляпшэння прапаганды кнігі гаварыла намеснік міністра народнай адукацыі БССР Л. К. Сухнат, галоўны інспектар Міністэрства культуры БССР Т. І. Папова, дырэктар народнага кніжнага магазіна калгаса «Дружба» Кобрынскага раёна С. М. Юрэня, начальнік упраўлення кніжнага гандлю Белкаапсаюза А. Р. Афяроўскі, адказны сакратар праўлення Гомельскай раённай арганізацыі таварыства Л. П. Возісава і іншыя. Праблемы культуры прапаганды беларускай кнігі ўзняў пісьменнік А. Вольскі.**

**Прынята адпаведная пастанова. У рабоце з'езда ўдзельнічалі намеснік загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ З. К. Прыгодзіч, адказны сакратар рэспубліканскага праўлення кнігалюбаў Латвійскай ССР Г. К. Гоба.**

**Выбары старшыні, першага намесніка старшыні і адказнага сакратара праўлення таварыства адбудуцца на чарговым пленуме.**

**НАШ КАР.**

# ПРОСІМ ПРАБАЧЭННЯ

**Пры падрыхтоўцы да друку артыкула Георгія Коласа «Паядынак Марсія з Афінай», змешчанага ў нумары «ЛіМа» за 23 чэрвеня г. г., па віне супрацоўнікаў рэдакцыі допушчана некалькі фактычных і стылёвых памылак. Паасобныя з іх скажаюць аўтарскую думку. Рэдакцыя просіць у Г. Коласа і чытачоў прабачэння за прыкрую неахайнасць, за ўрон, нанесены гэтай увогуле цікавай і змястоўнай публікацыі.**

і кансерваторыі, дзве новыя філармоніі ў Магілёве і Гомелі.

Апроч даўно наспеўшай рэканструкцыі ДАВТа, тэатра імя М. Горкага, Брэсцкага і Магілёўскага драматычных тэатраў са спісу нашых новабудоўляў трэба назваць такія аб'екты, як Маладзёжны тэатр і тэатр лялек у Мінску, дзіцячы Музычны тэатр у Віцебску, драматычны тэатр у Полацку. У раёне гістарычнай забудовы ў Траецкім прадмесці ідзе падрыхтоўка будынка для тэатра «Старога горада».

Дастойнае месца ў праграме «Спадчына» займаюць прапановы па развіцці тэатральнага мастацтва.

Вызначэнне асноўных напрамкаў перабудовы тэатральнай справы — прыклад плённай садружнасці творчага Саюза тэатральных дзеячаў і Міністэрства культуры.

Матэрыялы сумесных распрацовак былі надрукаваны ў «ЛіМе» і неўзабаве абмеркаваны на пленуме СТД і пашыраным пасяджэнні калегіі міністэрства. Стан беларускага тэатра паўсюль выклікаў сур'ёзную трывогу.

**Рашэнне задачы адраджэння нацыянальнага тэатра патрабуе цэлага комплексу мер — якія прадугледжваюць, у першую чаргу, стварэнне новых нацыянальных труп і тэатраў. На першым плане гэтай Праграмы, з улікам рэальных эканамічных, творчых і кадравых магчымасцяў, прадугледжваецца стварыць беларускамоўныя акцёрскія трупы ў абласных рускіх драматычных тэатрах, а таксама ў Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі з тым, каб частку рэпертуару іграць на беларускай мове. Прадугледжваецца адкрыць у Мінску Эксперыментальны тэатр-лабараторыю беларускай нацыянальнай драматургіі, актыўна садзейнічаць стварэнню беларускіх тэатраў-студый у Баранавічах, Лідзе, Рэчыцы, Рагачове, Пінску, Оршы, Маладзечне, а таксама ва ўсіх абласных цэнтрах. Акрамя гэтага, намячаецца на базе тэатраў-студый у г. Мазыры і г. Слоніме стварыць беларускія драматычныя тэатры.**

**Прадугледжваецца пашырыць сетку беларускіх тэатраў за кошт трупы — драматычных (Пінск, Орша), лялечных (Мазыр, Ліда, Маладзечна), музычных (Гродна, Віцебск), — вывучыць магчымасці рэстаўрацыі Ружанскага і Гродзенскага тэатраў XVIII стагоддзя, якія з'яўляліся ў свой час аднымі з буйнейшых цэнтраў мастацтва на захадзе Расіі. Мяркуем таксама прывесці ў належны парадак Слонімскую канцэртную залу, дзе выступаў сімфанічны аркестр Агінскага.**

Вопыт першых гадоў перабудовы паказаў, што спадзяванні толькі на змену арганізацыйных, эканамічных структур, на стварэнне механізмаў самаўпраўлення ў мастацтве — ілюзорныя, што падобная перабудова — толькі стварэнне неабходных нармальных умоў для творчасці. Не больш. Не меней важны маральны і духоўны стан саміх творцаў культуры.

Глыбокае абнаўленне ўсіх бакоў творчага жыцця дзеячаў культуры, рух наперад магчымыя сёння толькі на шляху дэмакратызацыі сістэмы ўпраўлення культурай, удасканалення сувязей дзяржаўных органаў з творчымі саюзамі і арганізацыямі. І тут за паслякрасавіцкі перыяд тое-сёе ўдалося ўжо зрабіць.

Я ўжо нагадваў вельмі адчувальную для нас у кантэксце сённяшняй размовы праблему: неабходнасць распрацоўкі канцэпцыі эстэтычнага выхавання. Няхай даруюць мне літаратары за банальнасць вобраза, але ўсе тыя плыні, што складаюць напаўненне нашых праграм «Спадчына», «Тэатр», «Музей», «Вольны час» і гэтак далей, не сальюцца і стануць магутнай паўнаводнай ракой, калі ў ёй не будзе струменіцца маленькая крынічка, якую б я назваў эстэтычным выхаваннем дзяцей.

Ад таго, наколькі нам удасца прывіць нашым дзецям на самым пачатку іх жыцця пачуццё прыгажосці, прагу штодзённай сустрэчы з ёй, залежыць заўтрашні дзень тэатра, музыкі, выяўленчых мастацтваў, лёс нацыі ўвогуле. Таму мы ўпэўнены, што без пашырэння сеткі дзіцячых музычных школ, школ мастацтваў, росту кантынгенту навучэнцаў, рэзкага пашырэння аб'ёму выкладання ў школе літаратуры, дысцыплін эстэтычнага цыкла, любая наша праграма завісне, як кажуць, у паветры.

Дарэчы, у Японіі, якая з'яўляецца адной з самых тэхнічна развітых краін, ужо даўно стала нормай выкладанне ў навучальных установах этыкі і эстэтыкі. Дванаццаць гадзін у тыдзень аддаецца на пасціжэнне прыгажосці, акрамя таго, адзін дзень у тыдзень вучні праводзяць у музеях і тэатрах.

Таму запланаванае намі да 1995 года павелічэнне колькасці дзіцячых музычных школ у тры разы, ці спробу як мага больш ахапіць вучняў першых — восьмых класаў формамі эстэтычнага выхавання, трэба разглядаць толькі як першапачатковы крок у найважнейшай справе эстэтычнага выхавання моладзі.

Культура — гэта пэўны гістарычны ўзровень развіцця грамадства, творчых сіл і здольнасцей чалавека. Так трактуе гэта паняцце марксісцка-ленінскае вучэнне. Паўтараю: «узровень развіцця грамадства альбо ўзровень цывілізацыі грамадства». Таму грубейшая памылка лічыць, што клопат пра культуру народа, яго духоўнасць — гэта праблема ведамасная, толькі Міністэрства культуры. Мы ўжо нацешыліся так званымі «здабыткамі» астаткавага прынцыпу адносін да культуры як да галіны ведамаснай, якая нібы ляжыць наўзбоч ад галоўнага напрамку развіцця грамадства. Пара рабіць вывады.

І апошняе. Каб рэалізаваць намечаныя грандыёзныя планы, патрэбны здольныя кадры ў сферы культуры, у тым ліку і культасветработнікаў. На жаль, аплата іх працы на ўзроўні аплаты працы работнікаў народнай гаспадаркі невысокага прафесійнага ўзроўню — тыпу прыбіральшчыц і грузчыкаў. Пры такіх матэрыяльных перадумовах рэзка палепшыць якасны састаў кадраў практычна немагчыма. Мы ставім задачу хаця б захаваць тыя кадры, якія маем. Уся надзея на новы гаспадарчы механізм і новыя эканамічныя ўмовы.

Акадэмік Ліхачоў сказаў, што дваццаць першы век павінен стаць векам гуманізацыі і культуры. Бо адзінае, што можа выхаваць і захаваць мараль, — культура.

